

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 41 (13573)

5— 11 кастрычніка 1992 года

Кошт 3 рублі.






## Да кіраўнікоў устаноў культуры і адукацыі

Пачалася падпіска на наступны год на дзіцячыя і маладзёжныя беларускія выданні — газеты "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі", часопісы "Маладосць", "Бярозка", "Вясёлка", "Пралеска". Сёння, калі ў школах і дзіцячых садках, прафтэхвучылішчах і ВНУ ідзе нялёгкі працэс адраджэння цікавасці да роднай мовы, гісторыі і культуры, гэтыя выданні могуць стаць вашымі надзейнымі памочнікамі.

Менавіта ў іх вы заўсёды знойдзеце грунтоўныя і разам з тым цікавыя і даступныя матэрыялы па гісторыі Беларусі, дапаможнікі па вывучэнню мовы, фальклор, казкі, што пры цяперашнім дэфіцыце падручнікаў і ўвогуле беларускай літаратуры дасць магчымасць вашым выхаванцам больш поўна далучыцца да роднага слова.

Аднак сітуацыя складваецца амаль катастрафічная: рэзкае павелічэнне паліграфічных выдаткаў, цэн на паперу і паслугі сувязі прывяло да непамернага росту падпіснога кошту на дзіцячыя і маладзёжныя газеты і часопісы. Між тым, многія з бацькоў не могуць выдзеліць з небагатага сямейнага бюджэту грошы на любімыя выданні, як не можа гэта зрабіць і значная частка студэнтаў і навучэнцаў тэхнікумаў і ПТВ. Звяртаемся да вас, кіраўнікі ўстаноў адукацыі і культуры, з рэкамендацыяй выпісаць газеты "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі", а таксама часопісы "Маладосць", "Бярозка", "Вясёлка", "Пралеска" ў кожную школьную і студэнцкую бібліятэкі, у кожны гарадскі ці вясковы дом культуры, знайсці іншыя формы калектыўнай падпіскі.

Спадзяёмся таксама на вашу дапамогу ў арганізацыі шырокай прапаганды гэтых выданняў у класах і аўдыторыях, іншых маладзёжных калектывах.

Міністр культуры РБ — Я.К. Вайтовіч

Міністр адукацыі РБ — В.А. Гайсёнак

Старшыня падкамісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета РБ — В. М. Курдзюкоў

Старшыня Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў РБ — М.В. Падгайны

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63129 (індэкс выдання)

Чырвоная змена — Колькасць камплектаў

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63129 (індэкс выдання)

Чырвоная змена

| Кошт | падпіскі 108 руб. 00 кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі ___ руб. ___ кап. | |

на 1993 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# РАДЫКАЛЬНАЯ — ПАРТЫЯ БУДУЧАГА?

У жніўні ў Мінску адбылася першая канферэнцыя радыкалаў Беларусі, у якой таксама прымалі ўдзел і госці — радыкалы з СНД і Італіі. На канферэнцыі разглядаліся, у прыватнасці, праблемы экалогіі, альтэрнатыўнай службы ў арміі, праваў чалавека, а таксама абмяркоўвалася пытанне арганізацыйнага афармлення руху беларускіх радыкалаў. З гэтай нагоды, пэўна, мае сэнс больш падрабязна расказаць пра партыю радыкалаў, якая знайшла сваіх прыхільнікаў і ў нас, пазнаёміць з яе праграмнымі высновамі і мэтамі.

Сваю гісторыю Радыкальная партыя пачынае з 1955 года, калі яна была створана ў Італіі. На з'ездзе ў Будапешце ў красавіку 1989 года прынята рашэнне заснаваць "новую партыю",— транснацыянальную і транспартыйную. Зараз РП налічвае каля 5 тысяч чалавек у краінах Еўропы, Афрыкі, Азіі, Амерыкі. Членамі гэтай партыі ў апошнія гады сталі і прадстаўнікі Беларусі.

Сваім сімвалам Радыкальная партыя выбрала профіль Махатмы Гандзі, што азначае прыхільнасць партыі метадам актыўнага палітычнага ненасілля. Яе акцыі — дэманстрацыі, петыцыйныя кампаніі, галадоўкі. Партыя даводзіць да ведама, што яна не складае канкурэнцыі іншым партыям і будзе супрацоўнічаць з усімі палітычнымі арганізацыямі, якія падзяляюць яе мэты і ідэалы. Яна таксама свядома адмаўляецца ад прыходу да ўлады, бо лічыць, што яе задача — заваёўваць сабе прыхільнікаў у дзяржаўных структурах, змяняць іх мысленне. Таму РП не стварае сваіх спісаў, калі адбываюцца нацыянальныя выбары, а яе члены ўдзельнічаюць у выбарчай кампаніі па спісах іншых партый або ў якасці незалежных кандыдатаў.

Сярод асноўных праграмных напрамкаў партыі — выступленні за стварэнне альтэрнатыўнай грамадзянскай службы для прызыўнікоў і кампаніі па барацьбе з голадам і экалагічнымі праблемамі, патрабаванні разбраення і актыўны ўдзел у вырашэнні міжнацыянальных канфліктаў.

— Зараз, калі распаліся СССР і ўся былая палітычная сістэма сацыялістычных краін і на нашых вачах адбываецца аддзяленне і адасабленне дзяржаў нацыянальнымі рамкамі, на мой погляд, асабліва прывабнай для многіх людзей здаецца ідэя радыкалаў аб еўрапейскім федэралізме — стварэнні Злучаных Штатаў Еўропы,— гаворыць член РП Беларусі Святлана Копцель.— Усе мы ў гэтым свеце ўзаемазвязаныя і ўзаемазалежныя, ніякая краіна сёння не ў стане вырашыць свае праблемы сама. Таму добраахвотнае дэмакратычнае аб'яднанне краін і народаў дало б магчымасць дзяржавам сумеснымі намаганнямі паспяхова вырашаць многія важныя пытанні развіцця, ці то эканамічныя праблемы або праблемы дэмакратыі, праваў чалавека, экалогіі. Дарэчы, радыкалы не абмяжоўваюць Злучаныя Штаты рамкамі Еўропы і пакідаюць месца ў Еўрапейскай супольнасці ўсім зацікаўленым у садружнасці дзяржавам свету.

У прававой дзейнасці мы выступаем за выкананне двух асноватворных заканадаўчых дакументаў — Усеагульнай Дэкларацыі праваў чалавека і Еўрапейскай Канвенцыі па правах чалавека. А таксама неад'емнай і абавязковай умовай выканання праваў чалавека лічым захаванне за асобай права на жыццё: ніхто, ні пры якіх абставінах не можа пазбавіць чалавека яго законнага права, дадзенага яму з нараджэння. І тут мы разглядаем не толькі маральны бок праблемы і зыходзім не толькі з агульных разважанняў аб тым, што смяротная кара не здольна аказваць на чалавека жахлівага ўздзеяння. У тых дзяржавах, дзе яна была адменена, не назіралася росту злачыннасці. На нашу думку, дзяржава павінна выконваць свае выхаваўчыя, а не карныя функцыі. Але гэта праблема мае і іншы бок. Смяротная кара часта выкарыстоўвалася і выкарыстоўваецца цяпер у дзяржавах і як сродак палітычнага падаўлення і знішчэння сваіх палітычных апанентаў. У той жа час у судовай практыцы вядомы выпадкі, калі з-за судовых памылак смяротная кара прымянялася і ў адносінах да невінаватых.




Хочацца таксама заўважыць, што ў значнай ступені з-за кампаній радыкалаў смяротная кара была адменена ў Чэха-Славакіі ў сакавіку 1990 года, а таксама ў Венгрыі ў лістападзе гэтага ж года.

Яшчэ адзін напрамак дзейнасці Радыкальнай партыі, вакол якога разгортваецца таксама шмат бурных спрэчак,— кампанія антыпрагібіцыянізму (легалізацыі) наркотыкаў. Мы лічым, што палітыка забароны наркотыкаў не прыносіць поспеху і неэфектыўная. Больш таго, яна нарадзіла шмат іншых невырашальных праблем. Так, напрыклад, дзякуючы манаполіі высокіх цэнаў на чорным рынку падпольныя гандляры атрымліваюць велізарныя прыбыткі, што дае ім потым магчымасць укладваць атрыманыя ад гандлю наркотыкаў грошы і ў афіцыйную эканоміку, набываць палітычны ўплыў. Дзяржава вымушана ствараць усе новыя медыцынскія і паліцэйскія падраздзяленні па барацьбе з наркотыкамі, перагружаць суды і турмы. Наркаманы паміраюць ад перадазіроўкі, з-за нестэрыльных шпрыцоў заражаючца СНІДам. Такі пералік праблем можна было б працягваць доўга. І радыкалы прапануюць адно выйсце з гэтай сітуацыі — кантроль дзяржавы за вырабам і распаўсюджаннем наркотыкаў разам з правядзеннем шырокай інфармацыйна-вытлумачальнай работы вынікаў іх ужывання.

— Наогул, на маю думку,— адзначыла Святлана Копцель, праграмныя палажэнні Радыкальнай партыі патрабуюць ад кожнага чалавека, асабліва палітыка, неардынарнасці мыслення, свабоды ад нацыянальнай абмежаванасці, высокага ўзроўню свядомасці і адказнасці за лёс іншых людзей у свеце. Таму я назвала б Радыкальную партыю партыяй будучага, партыяй дваццаць першага стагоддзя, калі б мы дараслі да таго часу да такога ўсведамлення, што змаглі б ажыццявіць праграму партыі.

Сярод іншай дзейнасці РП, мабыць, для кагосьці здасца цікавым падыход радыкалаў да праблемы мовы міжнародных зносін. Ёй павінна стаць не англійская, якая зараз прэтэндуе на гэта, а эсперанта, таму што, лічаць эсперантысты, англійская мова пагражае знішчыць на працягу некалькіх пакаленняў існаванне ўсіх іншых моў. Эсперантысты разглядаюць праблему мовы не толькі як лінгвістычную, але і як палітычную праблему дэмакратыі. Шырокае распаўсюджанне англійскай мовы яны растлумачваюць не тым, што яна самая лепшая для зносін ў параўнанні з іншымі мовамі, але тым, што яна ўяўляе мову пануючай палітычнай улады і вызначаецца той роляй, якую адыгрываюць зараз англа-саксонскія дзяржавы. На думку эсперантыстаў, толькі прыдуманая, ненатуральная мова, якая не будзе роднай ні для каго, не прынясе ў сабе разбурэння для іншых моў.

Кангрэс і Федэральны Савет, якія выбіраецца Кангрэсам,— асноўныя органы РП. Зараз першым сакратаром Радыкальнай партыі выбраны Серджыя Станцані, старшыня ФС — Марка Панэла. Ніякіх нацыянальных або рэгіянальных структур у РП няма. Цікава вызначыць, што ў запісе ў Радыкальную партыю нікому не можа быць адмоўлена, таксама як ніхто і ні пры якіх умовах не можа быць з яе выключаны. Членам партыі можа стаць любы чалавек, незалежна ад полу, расы, мовы, узросту, сацыяльных умоў (напрыклад, зняволены), незалежна ад яго мінулага, ідэй, прыналежнасці да іншых партый. Таму ў складзе РП — прадстаўнікі многіх партый, у тым ліку часта і тыя, якія супрацьстаяць адна адной у палітычным жыцці.

Членства ў РП устанаўліваецца тэрмінам на адзін год, а кожны наступны год гэту працэдуру трэба афармляць па новай.

Да ўсяго сказанага аб РП застаецца толькі, пэўна, прывесці некалькі лічбаў. На першае паўгоддзе гэтага года колькасць радыкалаў у Расіі, напрыклад, складала каля 1400 чалавек, на Украіне — 500, Азербайджане — 700 членаў. У Беларусі сёння ў Радыкальную партыю ўступіла каля 80 чалавек, а ў мінулым годзе іх было ўсяго восем.

Вядома, рух беларускіх радыкалаў зараз толькі на стадыі станаўлення, і яму яшчэ давядзецца заявіць аб сабе ў нашым палітычным жыцці, дзе, безумоўна, не бывае аднамыслення, як і наогул у звычайным жыцці. Але нават у людзей розных поглядаў і перакананняў РП, відаць, усё ж не можа не выклікаць павагі сваёй міратворчай місіяй, шчырым жаданнем аб'яднаць розныя палітычныя сілы і ўсіх людзей у вырашэнні глабальных праблем выжывання. Пэўна, гэта мела на ўвазе Мірые Рушані, намеснік старшыні Ліберальнай партыі Косава, калі ў адным са сваіх інтэрв'ю сказала: "Да самага сучаснага моманту я ненавідзела слова "палітыка". Думаю, што гэта датычыцца і ўсіх тых, хто жыве ва Усходняй Еўропе, бо палітыка абазначала ўсё тое, што толькі можа існаваць супраць чалавека, супраць свабоды, супраць культуры. У Радыкальнай партыі я знайшла тое, што шукала многа гадоў: я запісваюся ў палітычную арганізацыю, якая глядзіць на міжнародныя праблемы такім чынам, як двое сяброў абменьваюцца прывітаннямі без задніх думак".

Наталля ВАЛАКІДА.

## "Рускія ідуць"

Не хвалюйцеся, гэта жарт з серыі заходніх фільмаў-жахаў. Папросту... у Беларусі ствараецца "Русь". Вялікая нацыя клапоціцца пра сваё існаванне нават у маленькай амаль дарэшты дэнацыяналізаванай дзяржаве.

Такую назву атрымала Мінскае таварыства рускай культуры, якое 30 верасня правяло свой устаноўчы сход.

Як адзначана ў статуце таварыства, сваёй асноўнай задачай "Русь" лічыць забеспячэнне і абарону нацыянальных, духоўных і культурных запатрабаванняў рускага насельніцтва беларускай сталіцы, а таксама грамадзян іншай нацыянальнасці, якія жывуць у Мінску і зацікаўлены ў развіцці рускай культуры ў Беларусі.

Таварыства мяркуе распрацоўваць і прадстаўляць ураду прапановы аб развіцці рускай культуры, мовы і традыцый, плануе праводзіць культурныя мерапрыемствы, якія звязаны з гістарычнымі падзеямі і творчасцю выдатных прадстаўнікоў рускай гісторыі, навукі і культуры. Будуць таксама арганізоўвацца сустрэчы з дзеячамі мастацтва, вучонымі, святарамі. "Русь"мае на мэце весці работу па вывучэнню гістарычнай, культурнай і філасофскай спадчыны Расіі, садзейнічаць аднаўленню і ахове помнікаў гісторыі і культуры.

У сваім выступе на ўстаноўчым сходзе ягоны старшыня, галоўны інжынер праекта храма іконы Божай Маці ўсіх гаротных Радасць Генадзь Уласаў адзначыў, што"Русь" — не палітычная, а культурнаасветніцкая арганізацыя, у якой могуць удзельнічаць члены любых партый і прадстаўнікі ўсіх веравызнанняў. "Русь" будзе таксама падтрымліваць сувязі з таварыствамі нацыянальных культур іншых народаў. Па старадаўняй звычцы, каб пачатая справа паспяхова ажыццяўлялася, устаноўчы сход быў блаславёны малітвай. Апошнюю прачытаў настаяцель Свята-Петрапаўлаўскай царквы Лагойскага раёна айцец Павел, дарэчы, абраны на сходзе намеснікам старшыні таварыства "Русь".

Н.ВОСТРЫК.

"ПАС" падрыхтавала Алена АГІБАЛАВА, рэдактар па пытаннях палітыкі, тэл. 39-87-94.

## ЭКАНАМІЧНЫ ЛІКБЕЗ

АВУАРЫ – сродкі банка, якія знаходзяцца на захаванні ў замежным банку. Могуць складацца з валюты, каштоўных папер і золата.

АКРЭДЫТЫЎ – а) грашовы дакумент, які пацвярджае права асобы, на імя якой ён выдадзены, атрымаць у крэдытнай установе (банку, у прыватнасці ашчадным банку) указаную суму; б) адзін з тыпаў банкаўскага рахунку. Выкарыстоўваецца ў нашай краіне як форма безнаяўных іншагародніх разлікаў паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі, а таксама ў міжнародных разліках па камерцыйных аперацыях. Адкрываецца па даручэнню плацельшчыка ў банку, які абслугоўвае контрагента.

АКСЕЛЕРАТАР – паказчык, які выкарыстоўваецца ў дзяржаўным рэгуляванні рыначнай эканомікі. Прынцып акселерацыі сыходзіць з таго, што павелічэнне або памяншэнне спажывецкіх расходаў выклікае змены ў накапленні капіталу. Напрыклад, значнае ўзрастанне спажывецкага попыту на тавары можа мець вынікам павелічэнне вытворчых магутнасцей. Наадварот, значнае памяншэнне спажывецкіх расходаў можа настолькі скараціць прыбытак вытворцаў, што не дасць ім магчымасці нават замяніць зношанае абсталяванне, г.з. выклікае тое ці іншае зніжэнне інвестыцый. Каэфіцыент акселерацыі (акселератар) характарызуе змену аб'ёму інвестыцый, які выкліканы ростам або падзеннем спажывецкіх расходаў. У практыцы рэгулявання савецкай эканомікі прынцып акселерацыі пакуль фактычна не рэалізуецца.

АКТЫВЫ – уліковая катэгорыя, якая ўплывае на кошт уласнай маёмасці рыначнага суб'екта плюс сродкі і запасы, якія прызначаюцца для ўплаты запазычанасці. Актывы могуць мець матэрыяльную субстанцыю (абсталяванне, будынкі, тавараматэрыяльныя запасы) і нематэрыяльныя (патэнты, пазыковая абавязацельствы і інш.). Актывы падзяляюцца на цякучыя і фіксаваныя, у залежнасці ад таго, ціператвараюцца яны ў грошы на працягу года (або іншага перыяду), ці не. У гаспадарчай практыцы складаецца баланс актываў і запазычанасці. Запазычанасць падзяляецца на кароткатэрміновую і доўгатэрміновую, у залежнасці ад таго, ці пагашаецца яна на працягу лічыльнага перыяду або пераходзіць за яго межы. Кошт уласнай маёмасці фірмы роўны актывам мінус запазычанасць. Напрыклад, суадносіны актываў да кошту ўласнай маёмасці ў буйнейшых карпарацый ЗША такія: "Джэнерал моторс"у 1989 годзе мела актывы 173297 млн.дал. і ўласная маёмасць 31982 млн.дал.; "Форд мотар" – адпаведна 160893 млн. і 22728 млн. дал. У 500 буйнейшых прамысловых карпарацый ЗША на 1 дал. уласнай маёмасці прыходзілася на пачатку 80-х гадоў 2,17 дал. актываў, а ў 1989 г. – ужо 3,18 дал.

АКЦЭПТ – згода на аплату разліковых і таварных дакументаў або тавараў. Пры акцэптнай форме разлікаў выканаўца работ або пастаўшчык складае плацежнае патрабаванне пакупніку (заказчыку) і перадае яго ў банк для пераводу грошай на свой рахунак. Да атрымання гэтых грошай банк крэдытуе выканаўцу (пастаўшчыка). У асноўным прымяняецца адмоўны (маўклівы) акцэпт, пры якім плацежнае патрабаванне лічыцца акцэптаваным, калі на працягу дамоўленага тэрміну пакупнік не адмовіўся ад плацяжу. Станоўчы акцэпт прадугледжвае пісьмовую згоду пакупніка на аплату кожнага плацежнага патрабавання.

# ПАД ВОКНАМІ БІЗНЕСУ,

## якую спявае малады бізнесмен Аляксей МАКСУРАЎ

## "СЕРЭНАДА"

Відаць, што не адзін раз, начытаўшыся газет, наслухаўшыся перадач па радыё і наглядзеўшыся доўгімі вечарамі тэлеперадач, шмат хто з жыхароў нашай эксперыментальнай краіны рашуча ўставаў з мяккага фатэля і, скіраваўшы да жонкі на кухню, заяўляў: "Усё! Досыць лынды біць. Пакуль ёсць магчымасць, трэба заводзіць прыватную справу, займацца бізнесам". Толькі вось парадокс: 70 працэнтаў ужо раніцою забываюцца пра свой парыў, а 25 працэнтаў, хоць і прачынаюцца з тымі ж думкамі, не ведаюць, чым заняцца. І толькі 5 працэнтаў спрабуюць нешта зрабіць. Ды й з іх бізнес-шчасце ўсміхаецца ўсяго 1,5 працэнтам.

Менавіта такім чалавекам і з'яўляецца дырэктар фірмы "Серэнада" Аляксей Максураў.

— Лёша, кожны па-свойму прыходзіць да адчування, што прыспеў час заняцца нечым сур'ёзным, неяк уладкоўваць сваё фінансава-матэрыяльнае становішча. Як да гэтага прыйшоў ты, як дайшоў да "такога" жыцця?

— Хутчэй за ўсё, пачатак усяму паклала жаніцьба. Ажаніўся я даволі рана — у 19 год, будучы яшчэ курсантам ваенна-марскога вучылішча. І тут намяшалася ўсяго: трэба было неяк матэрыяльна ўладкоўваць сямейнае жыццё, абрыдла ваенная сістэма, ды й хацелася неяк праявіць сябе, даказаць, што і я нечага варты. Я тады закруціўся з сябрамі, хацеў арганізаваць кантору па продажы аўтамабіляў, але зрабіць нам гэтага не дазволілі. Прыдумляў нешта яшчэ, але толку з усяго было мала. Пасля звальнення з арміі я часова працаваў слесарам і тады канчаткова зразумеў, што, калі я жадаю сапраўды нечага дасягнуць, трэба сур'ёзна і неадкладна брацца за справу.

Пачаў з таго, што сабраў усё золата, якое толькі было ў бацькоў і сваякоў, аднёс яго ў ламбард. Атрымаў за яго 20 тысяч рублёў, яшчэ 20 тысяч пазычыў у сяброў і з гэтымі грашыма, як у вір, кінуўся ў бізнес, вырашыўшы заняцца продажам аргтэхнікі (праўда не адразу), зняўшы пад арэнду памяшканне, заплаціўшы за рэгістрацыю і рэкламу, я застаўся без капейкі грошай у кішэні.

Хочаш раскажу табе пра сваю самую першую здзелку, на якой я прагарэў на 50 тысяч. Прыгадаю, самому смешна становіцца. Узяўшы крэдыт, я закупіў вялікую партыю "ласін", якія і да гэтага часу не прадаў, ляжаць у сховішчы. Тады я канчаткова зразумеў, што сур'ёзны бізнес і звычайная спекуляцыя не маюць нічога агульнага.

– І ніякіх сумненняў не было, што, скажам, займацца аргтэхнікай лепш, чым, напрыклад, аўтамабілямі?

— Былі. Асабліва пасля першага правалу. Я не ведаў, чым заняцца. І быў упэўнены, што з камп'ютэрамі і іншай аргтэхнікай лепш не звязвацца: нявыгадна. Пакуль не вылічыў розніцу коштаў, якая існуе на камп'ютэры, на нашым і маскоўскім рынку. Але я быў цалкам без грошай. І таму ўсе мае першыя крокі былі заснаваны на даверы. Мне давалі тавар пад слова гонару. Дзякуючы маёй камунікабельнасці.

– Няўжо ніяк не адбіваецца адсутнасць адукацыі, эканамічных ведаў?

— Яшчэ як адчуваецца. Без іх вельмі цяжка. Шмат нюансаў, якія я пазнаю ў працэсе працы, з вопытам, але якія можна было б ведаць, атрымаўшы адпаведную адукацыю. І гэта нягледзячы на тое, што я "пералапаціў" мора літаратуры. Добра хоць з галавою мне пашанцавала — пакуль толькі яна і ратуе!




– Шмат даводзіцца працаваць?

— У агульнай колькасці па 14 гадзін у суткі. Жонка ўжо і не рада майму гэтаму бізнесу.

– Сённяшнія складанасці ў палітыцы не перашкаджаюць табе?

— Толькі дапамагаюць. Калі я знайшоў магчымасць пераадольваць усе ўзведзеныя бар'еры і складанасці, то я не толькі магу зарабляць сваім бізнесам, але і на тых людзях, якія гэтыя бар'еры не налаўчыліся абыходзіць. А самыя вялікія грошы робяцца на вайне. Меў рацыю Рэт Батлер: скалаціць капітал лягчэй за ўсё, калі імперыя рушыцца і калі яна ствараецца.

– А як ты ставішся да эканамічнай палітыкі ўрада Беларусі?

— Дзяржава, якая абдзірае непамернымі падаткамі сваіх грамадзян, абдзірае сама сябе. Гэтым усё сказана.



– Каму тады гэта выгадна?

— Зарабляць можна нават на гэтых непамерных падатках. Шмат хто гэтым і займаецца. Увогуле існуе мільён спосабаў, як падмануць дзяржаву.

– А табе не даводзілася гэтым займацца?

— Гэта не падман. Гэта шчыліна, якую я знайшоў у цаглянай сцяне падатковай палітыкі. Калі ты ведаеш, з фірмаў пасрэднікаў здымаюць падатак у бюджэт 60 працэнтаў ад прыбытку, а з прадаўца — 28 працэнтаў. Таму я не выступаю пасрэднікам, я прадаю тавар.

– Твой узрост не перашкаджае справам?

— Калі шчыра, крыху перашкаджае. Але галоўнае ў гэтай справе стварыць адпаведны імідж. Аднаго разу мой сябар запытаўся ў мяне, што я зраблю са сваім першым мільёнам. Я адказаў, што планую ўкласці яго ў справу. "І памылішся, — сказаў ён. — Пусці яго на стварэнне адпаведнага іміджу". Цяпер у мяне шыкоўная спартыўная машына, рыхтуецца новы офіс, і стаўленне да мяне партнёраў, нягледзячы на ўзрост, зусім іншае.

– Ці лічыш ты сваімі канкурэнтамі тых, хто жыве ў бізнесе толькі сённяшнім днём?

— Яны мяне не цікавяць. Такія бізнесмены мне не канкурэнты. Мая справа нацэлена на заўтрашні дзень.

– Не ўсім так пашчасціла, як табе. І шмат хто з моладзі стаіць у чарзе беспрацоўных...

— Яны марнуюць час. Я глыбока ўпэўнены, што грошы можа рабіць кожны. Усё, што неабходна, — гэта паверыць у сябе. Пераканаўся ў гэтым на ўласным прыкладзе.

Гутарку вёў
Зміцер ЛУКАШУК,
аглядальнік
па пытаннях эканомікі.
Тэл.39-87-94.

# ПАДАТКІ ЗБІРАЦЬ — НЕ ГРОШЫ РАЗДАВАЦЬ

**Ці шмат мы ведаем аб рабоце і спецыфіцы дзейнасці раённай падатковай інспекцыі, перспектывах далейшага ўдасканалення падатковага заканадаўства ды іншых пытаннях такога кшталту? Няшмат. Менавіта таму сёння на старонцы "Эканоміка" – начальнік дзяржаўнай падатковай інспекцыі па Глыбоцкаму раёну Віцебскай вобласці Зігфрыд Іванавіч ЛУКАШЭВІЧ:**

— У рамках новай эканамічнай палітыкі і ў сувязі з павелічэннем колькасці падаткаплацельшчыкаў была значна павышана роля падатковай інспекцыі. Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь прыняты шэраг новых законаў аб падатках. Па сутнасці, працуе найноўшая падатковая сістэма, набліжаная да ўмоў рэальнага рынку. Таму мы і былі выведзены з саставу райфінаддзела і нам быў нададзены новы афіцыяльны статус — дзяржаўная падатковая інспекцыя. Кантроль за правільнасцю налічэння, паўнатой і своечасовасцю ўнясення плацяжоў у бюджэт, кантроль за фінансавай дзейнасцю юрыдычных і фізічных асоб, кааператываў, малых прадпрыемстваў, колькасць якіх за апошні час значна павялічылася, — вось асноўны спектр нашай дзейнасці. Толькі за мінулы 1991 год па раёну дзякуючы праверкам у бюджэт дадаткова налічана сума у памеры 1 мільён 262 тысячы рублёў. Праца падатковай інспекцыі вядзецца строга ў адпаведнасці з падатковым, адміністрацыйным і крымінальным заканадаўствамі.

– Махляры, несумленныя прадпрымальнікі ўсё ж, як бачна, існуюць? Якую адказнасць нясуць яны за парушэнне існуючых правілаў? Якія паўнамоцтвы падатковай інспекцыі ў такіх выпадках?

— Канешне, шмат негатыўнага засталося нам ад "застойных часоў". Тых, хто жадае падмануць, пакласці ў сваю кішэню больш чым патрэбна, — не паменшылася. А што можам зрабіць мы, як ставімся да несумленных прадпрымальнікаў? Начальнік падатковай інспекцыі сваёй уладай мае права, акрамя спагнання цалкам утоенага даходу, накласці штраф у двухкратным памеры ад схаванай сумы.

– Што неабходна зрабіць, каб адкрыць уласнае прадпрыемства і ў той жа час быць, як кажуць, у згодзе з падатковым і крымінальным заканадаўствам?

— Перш за ўсё неабходна атрымаць дазвол выканкома мясцовага Савета, потым даць магчымасць азнаёміцца з рэгістрацыйным дакументам падатковай інспекцыі ці як прадпрыемства, ці як плацельшчыка ў залежнасці ад формы падачы заявы, а праз месяц — рэгулярна прадстаўляць дэкларацыю аб даходах. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна на сённяшні дзень дзейнічае каля 40 кааператываў і малых прадпрыемстваў: будаўніча-рамонтных, па пашыву адзення, вырошчванню новых сартоў раслін, гандлёва-нарыхтоўчых і іншых.

– Інспектары падатковай інспекцыі, як можа падацца, уяўляюць сабой людзей паважаных і трапіць працаваць да вас, мабыць, вялікая ўдача?

— Зусім не. Штат у асноўным набраны з расфарміраваных раней раённых адміністрацыйных структур і праца ў нас не такая ўжо прэстыжная. Аклады невялікія, каб неяк параўнаць, прывяду такі прыклад: я як начальнік атрымліваю зарплату на ўзроўні загадчыка гаспадаркі абласной падатковай інспекцыі. Цякучасць кадраў вялікая. Папаўненне мы ў асноўным атрымліваем з ліку выпускнікоў фінансава-эканамічнага тэхнікума і эканамічнага універсітэта. І зноў жа: прыходзяць да нас маладзенькія дзяўчаткі, а праца — не любы мужчына вытрымае. І таму распаўсюджаныя чуткі, што працуюць у нас адны бамбізы-грамілы, занадта павялічаныя.

– Вось вы кажаце, што зарплата нізкая, тэхнічнае забеспячэнне слабае, і адразу ўзнікае такое пытанне. Прабачце, але я павінен яго задаць. Занадта далікатная ваша праца і ці не магчыма вось пры такіх цяжкіх умовах хабарніцтва, шантаж службовай асобы?

— Канечне, вы маеце рацыю. Такое пытанне праўамернае. Зарплата нізкая і тэхнікай слаба забяспечаны (транспарт у выглядзе старой, са зношанымі амаль на 100 працэнтаў дэталямі "Нівы", з расфарміраванага народнага кантролю). Але гаварыць аб выпадках хабару ці ж злоўжывання службовым становішчам работнікаў падатковай інспекцыі менавіта ў нашым раёне не прыходзіцца. Не вельмі шмат у нас у раёне кааператываў, прыватных прадпрыемстваў, тым больш дзейнасць некаторых з іх падпадала пад падатковае ці крымінальнае заканадаўства. Толькі 80 тысяч рублёў заплацілі яны ў выглядзе падаткаў у мінулым годзе, а на фоне 32 мільённага бюджэту раёна гэта капейкі. А дзяржава, магчыма, у асобе Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі павінна паклапаціцца аб нармальнай жыццядзейнасці сваіх падначаленых структур, аб стварэнні чалавечых умоў існавання яго супрацоўнікаў.



– Але мне здаецца, у вас вялікія перспектывы?

— Магчыма з павелічэннем прыватнага сектара ў эканоміцы, калі з'явіцца шмат прадпрыемстваў, прыватных магазінаў, кафэ, калі ў поўную моц запрацуе рынак, вось тады і ўзрасце неабходнасць у нашай арганізацыі і падатковая інспекцыя зойме належнае становішча, якое займаюць падатковыя органы ва ўсіх цывілізаваных краінах.

Віталь ДАЛІДОВІЧ.

# ЛКСМБ: ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ СМЕРЦІ?

## ЁСЦЬ КЛАСНАЯ НАГОДА "ЗАДРАТЬ ШТАНЫ"...

...І зноў ёсць за кім бегчы прапанаваным паэтам выглядзе. Беларускі камсамол выйшаў з падполля. У пачатку ліпеня ён атрымаў рэгістрацыйнае пасведчанне ад Мінюста. З гэтага моманту ЛКСМБ чамусьці прынята называць "адроджаным". Справа густу, канешне, але, паводле маіх назіранняў, варта было б ужываць азначэнне "нованароджаны"...

Калі ЛКСМ Беларусі "ўваскрэс", значыць, гэта каму-небудзь патрэбна. Блізка ведаючы аўтараў і непасрэдных выканаўцаў гэтага праекта, запэўніваю, што рэаніміраваць нябожчыка з той толькі мэтай, каб адсвяткаваць яго 72-годдзе, гэтыя хлопцы ды дзяўчаты не сталі б. Разумею: гэта не аргумент, а яго далёкі сваяк. А вось тое, што камсамол — адзіная не толькі палітызаваная, але і палітычная арганізацыя для моладзі з багатым вопытам палітычнай барацьбы і традыцыямі — гэта ўжо, бадай што, аргумент. Як і флірт камсамола з ДСПС, партыямі і рухамі камуністычнага і "патрыятычнага" накірунку.

Сённяшні ЛКСМБ прэтэндуе на свой уласны колер у спектры палітычнага руху. Роля бледна-ружовага адцення якой-небудзь ярка-кумачовай партыі яго ўжо яўна не задавальняе. Аднак знаходжанне ў блоку левых і спачуваючых ім сіл, якія налічваюць сёння больш за дваццаць тысяч чалавек, адчыняе перад маладымі ленінцамі значна большыя магчымасці ў рэалізацыі сваіх планаў. А там ужо застанецца спадзявацца на тое, што партыя "даст порулить". Такім чынам, у "нованароджанага" ёсць усе магчымасці трапіць у заўтрашнія газеты.

І аб тым, чаму ўсё-такі "нованароджаны". Ад свайго спачыўшага ў бозе продка (цёзкі па *прозвішчы?*) *у спадчыну яму засталася* толькі ідэалогія, якую сягоняшнія камсамольцы расчышчаюць ад непралазных завалаў з догмаў і канонаў. Ды яшчэ падазроная месцамі біяграфія. Усё астатняе: грошы, машыны, нерухомасць, пасады ў камерцыйных структурах і сімпатыі з боку новых улад дасталіся пахавальнай брыгадзе ВЛКСМ. "Зюкіным дзецям", як называюць іх тыя, хто не зняў значкі з профілем Ільіча пасля XXII з'езда, які распусціў ВЛКСМ. Нават сцяг з шасцю ордэнамі ў спешцы ніхто не паспеў "прыватызаваць". У выніку першыя страцілі магчымасць прадаць ордэны за валюту, а з палотнішча нашыць стыльныя порткі; другія нібыта згубілі права на свой шматгадовы фецiш.

Стоп, стоп, стоп. Бо неяк не заўважыў сам, як гаворка раптам зайшла аб ВЛКСМ, а першапачатковая тэма — ЛКСМБ. Тэрміналагічная педантычнасць не павінна вас бянтэжыць. Учарашнія намінацыйныя адрозненні сёння трансфармаваліся ў прынцыповыя. Па іх вельмі зручна прасачыць раскол у маладзёжным камуністычным руху на тэрыторыі, якую сёння прынята называць былым СССР. І, канешне ж, вызначыць "ролю і месца" ЛКСМБ у гэтым руху.

## "ШЫЗА" КОСІЦЬ ШЭРАГІ

Раскол, як і было заведзена ў палітычнай практыцы былой дзяржавы, выспеў на з'ездзе. 18-га красавіка пад Зеленаград з'ехаліся аднадумцы, каб абвясціць, што Саюз жывы. Не той, што ўжо быў пахаваны ў Віскулях, а Усесаюзны ленінскі і камуністычны. Той, каторы моладзі. Для большай пераканаўчасці сход аднадумцаў атрымаў назву XXIII (аднаўленчы) з'езд ВЛКСМ. 19-га красавіка, злёгку эпаціраваўшы прысутных на з'ездзе клеўрэтаў Андрэевай і Анпілава адсутнасцю жорсткай партыйнай дысцыпліны і рэцыдывамі вальнадумства, дэлегаты раз'ехаліся. "На месцы" яны прывезлі не толькі радасную вестку аб адраджэнні, але і абярэмак сумненняў...

У купэ поезда Масква — Мінск, вяртаючыся са з'езда, беларуская дэлегацыя спрачалася ўсю ноч. Да Мінска запал трохі астыў, а на Прывакзальнай плошчы выраз твараў дэлегацыі, акрамя "пачуцця глыбокага задавальнення", ужо нічога не адлюстроўваў. Аб "чорнай кошцы", якая прабегла паміж кіраўніцтвам ВЛКСМ і ЛКСМБ, "шырокім масам" вырашылі пакуль не казаць. У той час яшчэ можна было цешыць сябе думкай, што "кошка" здохне. Сягоння — нельга; яна адкармілася і стала падобна на воландаўскага Бегемота. Прычым, не памерамі, а сілай разбуральных інстынктаў. Пакінем, аднак, містычныя ілюзіі і паспрабуем разабрацца, чаму ўсё ж не змагла заснуць беларуская дэлегацыя пад акампанемент колаў цягніка.

Па-першае, таму, што з'язджаліся ў падмаскоўны Зеленаград аднадумцамі, а раз'язджаліся праз два дні, спадылба паглядваючы адзін на аднаго.

З першага ж акорда аркестра пад назваю ВЛКСМ маскоўскае кіраўніцтва арганізацыі заявіла, што яму больш падабаецца выконваць "партыю" дырыжора. Абавязкі ўсіх астатніх — уважліва сачыць за дырыжорскай палачкай і чуйна рэагаваць на кожны яе рух: паўтону вышэй-ніжэй — дыфамацыя, адступніцтва і рэвізіянізм. На думку кіраўніцтва, функцыяніраванне Усесаюзнага камсамола ў такіх умовах будзе найбольш эфектыўным. А кантактаванне з "нізавымі" (тэрмін яшчэ той) арганізацыямі павінна ажыццяўляцца выключна пры дапамозе стылістыкі імператыва і загадных таноў.

Сама палітычная праграма новага ВЛКСМ, тактыка і стратэгія дасягнення ім сваіх мэтаў, калі і адрознівалася ад ВЛКСМ памёрлага, то можа толькі ў бок 20-х гадоў. Дыягназ ясны — "камшыза". Першыя прыкметы — раз'юшаны радыкалізм, атрафія маральных і прававых установак. Хворыя, у залежнасці ад палітычнай арыентацыі, называюцца ультраправымі ці ультралевымі.




Вось такую непрыемную хваробу выявіў прадстаўнік разважлівай часткі камсамола Сяргей Вазняк у сваіх кіруючых таварышаў. Ды і засумняваўся ў тым, што беларускі камсамол пойдзе дакладна ў накірунку, указаным ЦК ВЛКСМ. Проста Сяргей пераканаы, што моладзь трэба весці ў XXI стагоддзе, а не ў 17-ы год.

Галоўнае патрабаванне ўсіх левых сіл — аднаўленне Саюза. У гэтым адзіныя і "ультра", і лева-цэнтрысты, і "рэвізіяністы". Іншая справа — што разумеюць пад словам "Саюз".

Для "шарыкавых" жаданы Саюз, зразумела, бачыцца ў вобразе вялікай і бруднай камуналкі, дзе няма галодных і сытых — ёсць толькі паўгалодныя, затое ўсе. Дзеючая мадэль такога Саюза ўжо створана — Ленінскі камуністычны саюз моладзі. Там, у поўнай адпаведнасці з аўтакратычнымі дамаганнямі аўтараў ідэі, на адной палітычнай кухні гатуецца тэарэтычнае варыва, абавязковае да спажывання ўсімі членамі секты. Таго-сяго гэта вызваляе ад неабходнасці працаваць мазгамі. На шчасце, ЦК беларускага камсамола да іх ніякага дачынення не мае.

На з'ездзе толькі беларусы і піцерцы адстойвалі права на самастойнасць у выбары сваёй тактыкі і выпрацоўцы сваёй унутранай палітыкі. За што і падвергліся лёгкаму таварыскаму астракізму з боку вышэйшага камсамольскага камандавання. Дарэчы, сам ЦК па-ранейшаму ўпэўнены, што з Масквы лепш бачна, што каму і як рабіць: іхная свядомасць надзейна агароджаная шорамі правадырызму "а-ля Джугашвілі", не ў стане адрозніць палітычныя абставіны 92-га года ад першых паслярэвалюцыйных гадоў. Кіраўнікам ВЛКСМ, мабыць, незразумела, што, напрыклад, на Беларусі ўсялякія там палітычныя феерыі з галадоўкамі, пальбой і іншымі самаспальваннямі недарэчныя.

## МОЦАРТ І САЛЬЕРЫ, КАМСАМОЛЬСКІ ВАРЫЯНТ

Капітан Савецкай Арміі (як да гэтага часу ён саманадзейна сябе называе) Сяргей Вазняк, украінец па нацыянальнасці, стаў на чале імжа заснаванага камсамола Беларусі. Здарылася гэта пасля каласальнай працы па стварэнню ў тым яшчэ ЛКСМБ апазіцыі, якая пазней і ператворыцца ў арганізацыйнае ядро камсамола сённяшняга.

Ва ўсе званы Вазняк пачаў біць адразу ж пасля свайго прыезду з XXII ("зюкінскага") з'езда ВЛКСМ. Як член створанага "ў кулуарах" руху "За адраджэнне камсамола", ён адразу ж разгарнуў агітацыйную і арганізацыйную работу на Беларусі. Зерне ўпала на жыватворную глебу.

Карацей, праз два месяцы пасля распусціўшага ЛКСМБ XXX з'езда ў Кончыцах, што пад Пінскам, паспяхова праходзіць XXXI (аднаўленчы) з'езд ЛКСМБ.

У палітыцы, як і ў нашай сферы чалавечай дзейнасці, ёсць свае Моцарты і Сальеры, майстры і бяздарныя эпігоны. Асабліва выразна гэта праяўляецца пасля таго, як фундамент ужо закладзены. З гэтага моманту кожны працягвае будаўніцтва ў адпаведнасці са сваім планам, які лічыць генеральным і геніяльным. Нядзіўна, што так здарылася і ў беларускім камсамоле пасля выступленняў членаў дэлегацыі ад ЛКСМБ.

З трыбуны і ў кулуарах вышэйшага камсамольскага форуму Сяргей Вазняк шчыра "крамольнічаў". Падбухторваў на барацьбу з артадаксальнасцю, неабальшавізмам і іншай абавязковай "рубкой лозы" напярэдадні наступлення на дэмакратаў. А пасля таго, як Сяргей заявіў аб тым, што адзін радыкал-бальшавік для камсамольскага руху здольны нанесці шкоды больш, чым дзесяткі дэмакратаў, стала зразумела, што на прадстаўніцтва ў кіруючых органах ВЛКСМ беларускі камсамол можа не разлічваць. Ды не!

На другі дзень з'езда на трыбуне раптам з'яўляецца ў той час яшчэ сакратар Мінскай гарадской арганізацыі ЛКСМБ т.Саевіч. Палымяны рэвалюцыянер, ён гаворыць запальную прамову. З яе ўсе прысутныя даведваюцца, што менавіта ён, т.Савіч, і падтрымліваючыя яго значныя масы камсамольцаў жудасна абураны апартунізмам і згодніцтвам Вазняка, узурпацыяй Вазняком улады і г.д. У зале дружна ікнулі ад здзіўлення: гэта была беларуская дэлегацыя, з якой прамоўца яшчэ тры хвіліны таму быў ва ўсім згодзен.

Сышоў з трыбуны Віктар Саевіч ужо членам ЦК і бюро ЦК ВЛКСМ.

Беларусы ачомаліся не адразу і вырашылі трохі пазней спытаць аб невядомых "масах" у саміх камсамольцаў. І тыя адказалі, прагаласаваўшы за вызваленне В.Саевіча ад сакратарства і адкліканне яго з кіруючых органаў ВЛКСМ.

Зараз В.Саевіч па-ранейшаму наперадзе, на кані і з шабляй. Вось надоечы секанўў: 70 працэнтаў усіх месцаў у дзяржаўных структурах, арміі, КДБ і МУС павінна займаць моладзь. Павінна і ўсё тут! Забаўны малады чалавек, ці не так?

Дарэчы, з нядаўняга часу Віктар Саевіч быў прыняты ў ПКБ. З чым я шчыра і віншую тав. Чыкіна і папярэджваю, што з гэтага моманту яго палітычнай кар'еры пагражае пэўная небяспека.

Усе адрозненні членаў ЛКСМБ ад нас у тым, што мы імкнёмся пабудаваць камунізм кожны для сябе, а яны — для ўсіх нас. Камсамольцы Беларусі першымі зразумелі, што для гэтага зусім не трэба абносіць дзяржаву калючым дротам. Зразумелі, што ў схеме "Ідэалогія — мазгі" не стае аднаго важнага звяна — нашага з вамі страўніка.

Марат БУШЭНКА.

---

## Навіны ад Гаўдэамуса

### "Вучоба" на калгасных палетках

З надыходам кастрычніка можна сапраўды павіншаваць студэнтаў з пачаткам новага навучальнага года. Па даўняй традыцыі і сёлета значная частка студэнтаў (у прыватнасці, у БДУ – другакурснікі ўсіх факультэтаў, акрамя гістарычнага, хімічнага і журфака) пачала "вучобу" на калгасных палетках.

Не абышлося і без "накладачак": з запатрабаваных мясцовымі ўладамі 2,5 тысячы студэнтаў рэальна спатрэбілася ледзьве не ў два разы меней. Традыцыя, так бы мовіць.

Цікава, якім днём будзем датаваць рэальны пачатак наступнага навучальнага года.

### Есці хочацца...

Едзе студэнт у трамваі. Сядзіць старэнькая бабулька і жаласліва пытае:

– Сыночак, а што ж ты такі худзенькі?

– Я, бабуля, студэнт.

– Дык давай я хоць плашчык твой патрымаю.

– Гэта, бабулечка, не плашчык, а мой сябар Іванчук. Ён у нас увогуле выдатнік.

(Студэнцкі анекдот).

Жарты жартамі, а цалкам магчыма, што рэчаіснасць хутка будзе дужа нагадваць гэткага кшталту показку.

Стэрэатыпна галодны студэнт стаў яшчэ галаднейшым. Паводле слоў дырэктара сталовай БДУ Г.Р.Плюхінай, студэнцкія сталовыя і буфеты цяпер атрымліваюць і рэалізуюць малака – у два разы, а смятаны – нават у 3–4 разы менш, чым у мінулым. Нашмат меней ужываюць будучыя навукоўцы мяса і агародніны. Гэта, вядома, не можа не адбіцца на стане здароўя студэнтаў. Цікава, а які гэта зробіць уплыў на будучы стан навукі?

### Бывай, студэнцкая "вольніца"!

Разбэшчаных вольным наведваннем студэнтаў-старшакурснікаў факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ здзівілі і напалохалі дэканацкія праверкі на пачатку навучальнага года. Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што "не адышоўшыя" ад летняга адпачынку (ці працы) студэнты ў гэты час наведвалі лекцыі асабліва "вольна". Пагаворвалі ўжо і пра "рэпрэсіўныя меры" кшталту пазбаўлення стыпендый і выключэнняў. Тым не менш, скончылася ўсё досыць мірна: бацькам "злосных ненаведвальнікаў" былі разасланы лісты з "інфармацыяй". Вось так: будзеш прагульваць лекцыі, студэнт, – бацькоў выклічуць у "школу".

### Не хачу вучыцца, а хачу... на конкурс

Хваля конкурсаў прыгажосці дакацілася і да нашай вышэйшай адукацыі. 14 кастрычніка ў Мінску пройдзе конкурс "Міс-ВНУ". Дванаццаць удзельніц з розных навучальных устаноў сталіцы ў двух турах будуць спаборнічаць за званне "Міс". Першы тур, скіраваны пераважна на ацэнку знешніх якасцяў, уключае конкурсы "прадстаўленне", "купальнік", "дэманстрацыя вячэрняга строю", а таксама танцавальны і іншыя. Другі тур, больш "мазгавы", – амаль сакрэт нават для саміх удзельніц. Чакаецца шмат імправізацый і нечаканасцяў. А пакуль што з "канкурэнткамі-канкурсантамі" займаецца рэжысёр тэатра моды С.В.Еўдакіменка. Як зазначыла адна з удзельніц: "Не столькі важная перамога, як магчымасць бясплатна пазаймацца з майстрам, навучыцца прыгожа трымацца. А гэта ж немалаважна для кожнай". Спонсары шоу – фірма "Дайнова", БелНДІТЭКС, сетка сірыйскіх крамаў і крамаў начных. Пяты спонсар вызначаецца. Вось такі Будзе і ў студэнцтва свята...

Падрыхтавала Вольга АКУЛІЧ.




# ЛЕКАРКА

Жанчына — пяшчотнае, слабае стварэнне, дэкаратыўная кветка, якая вырошчваецца ва ўмовах раскошы і бяздзейнасці. Жанчына, якой можна ганарыцца, паказваючы яе саноўным гасцям у час баляў і прыёмаў. Такой ва ўяўленні нашых продкаў павінна быць шляхцянка.

Жанчына-дамаседка, клапатлівая гаспадыня, маці і паслухмяная жонка. Такой хацелі бачыць яны прадстаўніцу ніжэйшых саслоўяў.

У большасці сваёй жанчыны мінулых часоў і імкнуліся адпавядаць гэткім ідэалам прадстаўнікоў супрацьлеглага полу. Але зрэдку акалічнасць альбо асаблівасці характару той або іншай з іх рабілі жыццё такой жанчыны падобным на "круты" авантурны раман. Цікавы факт, але славутыя авантурысткі мінулага, як правіла, вызначаліся прыгажосцю і розумам. Не апошняе месца сярод іх займае і наша зямлячка Саламея Рэгіна Русецкая.

Нарадзілася Саламея ў 1718 годзе на Навагрудчыне. Бацька яе, Яўхім Русецкі, хутчэй за ўсё быў прадстаўніком гэтак званага "трэцяга саслоўя", г.зн. мешчанінам. У 1731 годзе чатырнаццацігадовую дзяўчыну выдалі замуж за лекара-немца, Якуба Хальпіра. Маладажоны ў тым жа годзе накіраваліся ў Стамбул, дзе ў хуткім часе Хальпір распачаў лекарскую дзейнасць. Жонка нечакана для яго праявіла да заняткаў мужа вялікую цікавасць і неўзабаве пачала дапамагаць. А паколькі яна вызначалася назіральнасцю, розумам і даволі вялікімі здольнасцямі, то ў хуткім часе пачала працаваць самастойна. Выпадак зводзіць Саламею з іракскім лекарам, які, заўважыўшы цікавасць маладой жанчыны да медыцыны, навучыў яе лячыць некаторыя хваробы вачэй. Малапамалу Саламея набыла столькі ведаў і вопыту, што атрымала дазвол самастойна практыкаваць. Па мусульманскіх звычаях мужчына, нават лекар, не мог наведваць гарэмы. А прававерныя мусульманкі не мелі права лекаваць пацыентаў-мужчын. Саламея ж магла практыкаваць і сярод мужчын, і сярод жанчын. Гэта зрабіла яе вельмі папулярнай.

Неўзабаве ў яе мужа здарылася вялікая непрыемнасць. Пасля прыняцця чарговай дозы мікстуры, якую выпісаў Хальпір, яго пацыент (важны саноўнік) нечакана памёр. Якубу пагражала пакаранне смерцю. Але ўмяшалася Саламея. Яна абвінавацілa ва ўсім канкурэнта свайго мужа лейб-медыка султана Даніэля Фансеку (які ў час прыгатавання мікстуры знаходзіўся ў тым жа памяшканні), быццам бы той знарок падмяшаў у мікстуру атруту. Так гэта было ці не — сказаць цяжка. Але Фансека спалохаўся і без пярэчанняў згадзіўся заплаціць велізарныя грошы сям'і нябожчыка ў якасці кампенсацыі. Саламея святкавала перамогу. Лейб-медык жа вырашыў адпомсціць ёй. Ён дабіўся таго, каб Саламеі забаранілі лячыць мужчын. У жанчын жа ёй дазвалялася лячыць толькі захворванні вачэй. Апошняе сведчыць аб тым, што нават ворагі маладой жанчыны паважалі яе майстэрства і веды ў сферы акулістыкі.

Аднак Саламею гэта не задавальняла. Вышэйпамянёны ўказ моцна ўдарыў па яе матэрыяльным становішчы. А яшчэ больш па самалюбству. Маладая лекарка пачала шукаць шляхі, якія далі б ёй магчымасць дабіцца адмены абмежаванняў. Дапамог выпадак. Адзін з прыбліжаных султана звярнуўся да яе з просьбай вылечыць сваяка. У таго была мочакаменная хвароба. Саламея згадзілася. Яна ўдала правяла лячэнне. Абмежаванні ў дзейнасці адмянілі.

Дзесьці ў гэты час ускладніліся адносіны паміж нашай гераіняй і яе мужам. Паспрыяла гэтаму раптоўная нервовая хвароба маладой жанчыны. У яе пачаліся істэрыкі, якія суправаджаў параліч. Саламея "дастала" мужа заявамі, у якіх скардзілася на тое, быццам на яе наслалі чары зайздроснікі. Абстаноўка ў доме стала невыноснай, і Якуб збег у Боснію. Жонку ж з маленькай дачкой ён пакінуў у Стамбуле.

Ачуняўшы, Саламея накіроўваецца ўслед за ім. Яна марыць памірыцца. Грошай у яе, пэўна, было няшмат. Таму жанчына вымушана падзарабляць па дарозе. Можна меркаваць, што пацыенты плацілі ёй нядрэнна. Пра гэта сведчыць тое, што са Стамбула яна выехала толькі на павозцы і толькі з адным слугой. У горадзе ж Філіпбеі ўжо змагла наняць яшчэ двух слуг і дзесятак коней.

Шлях яе ляжаў праз Балканы. І тут нашу зямлячку падвяла яе вядомасць. Разбойніку Рудому Хусейну, які панаваў са сваёй хеўрай у гэтых мясцінах, паведамілі, што з гандлёвым караванам, які накіроўваецца да перавалу, едзе лекарка Саламея, пераапранутая ў мужчынскае адзенне. Караван быў захоплены. Усе спадарожнікі Саламеі перабіты. А лекарцы разбойнікі загадалі ехаць з імі ў горад Карлава. Менавіта там жыла хеўра. Атаман пажадаў, каб Саламея занялася здароўем яго сваяка. Дарэчы, ён выказаў здзіўленне, чаму такая славутасць, як яго палонная, падарожнічае без канвою? Саламея зноў паказала свой розум і веданне чалавечай псіхалогіі. Яна адказала: "О, эфендзі, нават калі б у мяне быў канвой з пяцісот коннікаў, яны б не ўтрымалі націску воінаў храбрага віцязя Сары-Хусейна". Зразумела, што такі адказ узрушыў разбойніка.

Сваякі атамана сустрэлі лекарку як ганаровую госцю. Яе пасялілі ў асобным доме і прадаставілі ўсё неабходнае.

Заўважым, што Саламея цалкам апраўдала аказаны ёй давер. Пацыент адчуў сябе лепей настолькі, што змог хадзіць пры дапамозе мыліц.

Больш таго, маладая лекарка пазбавіла і самога Сары-Хусейна ад хваробы, якую ў дзённіку сваім, апублікаваным пазней, называла "чырвоныя вочы". Хутчэй за ўсё, гэта быў запушчаны кан'юнктывіт. Разбойнікі шчодра аддзячылі ёй і адпусцілі. Больш таго, да Сафіі Саламею праводзіў і ахоўваў ад "калег" Сары-Хусейна яго ганаровы канвой.

У Сафіі яна нечакана сустрэла мужа. Якуб прыехаў падлячыць свае суставы на мінеральных водах. Але радасці гэтая сустрэча не прынесла ні яму, ні Саламеі.

Значна больш, чым муж, зацікавіў нашу зямлячку ці то слуга, ці то раб, які прыехаў разам з Хальпірам. Італьянец па паходжанні, ён служыў лекарам на караблі рыцараў-мальтыйцаў. За той час, які ён з Хальпірам правёў на мінеральных водах, італьянец паспеў значна пашырыць веды сваёй новай знаёмай. Дзякуючы яму Саламея набыла, у рэшце рэшт, больш-менш сістэматычную медыцынскую адукацыю. Італьянец навучыў яе асновам лаціні. Растлумачыў, як карыстацца ёю пры выпісцы рэцэптаў. У хуткім часе яго адпусцілі на волю і дазволілі вярнуцца на радзіму. З радасці італьянец падарыў вучаніцы набор кніг па медыцыне і фармакалогіі.

У сямейным жа жыцці Хальпіраў не адбылося ніякіх змяненняў. Пасля заканчэння курсу лячэння Якуб паехаў назад у Боснію. Саламея ж, якая ў гэты час была ўжо лекаркай шматлікіх жонак сафійскага пашы Купру-улу, засталася.

Канец сямейным сваркам паклала раптоўная смерць Хальпіра. Перад дзевятнаццацігадовай удавой адкрываліся шырокія перспектывы. Тым больш, што грошы і маёмасць Якуба, якія належалі Саламеі па праву спадчынніцы, давалі ёй магчымасць на больш-менш забяспечанае існаванне.

Але ўсе планы перакрэсліла вайна. Турцыя ў гэты час вяла яе з Расіяй. Правіцелі Аўстрыі і Венгрыі выкарысталі такую сітуацыю для ажыццяўлення сваіх захопніцкіх планаў. Яны справакавалі паўстанне прыгнечаных туркамі сербаў і балгар. Больш таго, яшчэ і ўступілі ў вайну на баку Расіі. Але пышныя "парадныя" генералы аўстрыйскага і венгерскага імператараў аказаліся бяздарнымі палкаводцамі. Яны пацярпелі паражэнне і адступілі, а няшчасныя сербы і балгары, што даверыліся ім і падтрымалі, былі жорстка пакараны туркамі за "бунт". На працягу трох сутак салдаты турэцкага султана забівалі ўсіх знойдзеных імі мужчын-славян ад 18 да 60 гадоў. Жахі, сведкай якіх аказалася Саламея ў тыя дні, настолькі ўразілі яе, што яна вырашыла пакінуць службу ў пашы (дарэчы, вельмі выгадную для яе). Саламея пераапранулася ў адзенне янычара, узяла дачку і слугу і збегла з Сафіі.

Лёс прывёў яе ў Відзін — горад, які быў галоўным фарпостам туркаў у гэтых мясцінах. Тут яна ўбачыла вартую жалю карціну — тысячы закутых у кайданы аўстрыйскіх салдат і афіцэраў. Яна ведала, што большасць з іх чакае рабства. Сэрца яе напоўнілася жалем, і Саламея выкупіла чатырох афіцэраў і адну афіцэрскую ўдаву. Тыя пасяліліся ў доме выратавальніцы. Саламея, аднак, разлічвала на тое, што ёй кампенсуюць панесеныя расходы. Таму ў Аўстрыю пайшлі пісьмы. Родныя большасці з выкупленых Саламеяй адгукнуліся вельмі хутка. Толькі ад родзічаў прапаршчыка Фартуната-Ёжэфа дэ Піхльштэйна ніякіх вестак не прыйшло. І ён пакуль вымушаны быў застацца з Саламеяй.

У гэты час лекарку напаткала новая непрыемнасць. Відзінскі паша Хайваз Мехмет загадаў ёй вылечыць трансільванскага князя Іожэфа Ракачы. Туркі былі вельмі зацікаўлены ў яго здароўі, бо мелі намер зрабіць яго венгерскім каралём. Лекарка выканала загад. Пацыент нечакана захапіўся ёю і пачаў заляцацца. Ды і нядзіўна. Саламея была вельмі прыгожай жанчынай. Тым не менш, усе заляцанні аказаліся марнымі. Тады Ракачы вырашыў пакараць непрыступную прыгажуню. Ён "настрачыў" данос, абвінаваціўшы Саламею ў шпіёнстве на карысць Аўстрыі. І жанчыне давялося бегчы пад пагрозай смерці. Разам з дачкой, слугамі і апошнім выкупленым палонным на выпадковым караблі адплывае яна ўніз па Дунаі. Саламея так спяшалася, што не ўзяла нават пашпарт. З-за гэтага ў горадзе Рушчуку яе арыштавалі. Зноў ёй пагражае смерць. І зноў Саламею выратоўвае яе майстэрства. Якраз у тую ноч, калі яе схапілі, захварэў сын мясцовага скарбніка. Ніводзін лекар не змог дапамагчы яму. Тады арыштаваная прапанавала свае паслугі. На трэці дзень хворы адкрыў вочы, а пасля поўнага курсу лячэння (сорак дзён) цалкам ачуняў.

Турэцкі скарбнік аказаўся больш удзячным, чым трансільванскі князь. Саламея атрымала волю і нават дазвол ехаць у Расію. Прычыну для выезду яна знайшла вельмі хутка — пад Азовам у рускі палон трапіла некалькі турэцкіх афіцэраў, якія паходзілі з Русі. Саламея паабяцала вызваліць іх. На тэрыторыі Рэчы Паспалітай Саламея выйшла замуж за Піхльштэйна. Муж яе паступіў на службу да вялікага гетмана літоўскага Міхала Радзівіла Рыбанькі. Саламея нядоўгі час папрацавала ў Нясвіжы "доктаркай", а затым пакінула мужа, дачку, якую "ўладкавала" да манахінь-бенедыктынак, і накіравалася ў Пецярбург праз Рыгу і Нарву.

Але патрапіць на прыём да імператрыцы Анны Іаанаўны аказалася вельмі цяжка. А без гэтага вызваліць туркаў было немагчыма. Не дапамаглі ні рэкамендацыі, ні тое, што Саламея вылечыла таго-сяго з саноўнікаў. Цікавасць імператрыцы да лекаркі ўзнікла, як ні дзіўна, дзякуючы плёткам, якія ішлі пра яе сярод слуг. Тыя былі сведкамі аперацыі па выдаленню катаракты, якую правяла Саламея. Лекарка выратавала ад слепаты простую дзяўчынку, што працавала ў доме старога бандурыста. У той жа вечар лекарку запрасілі да імператрыцы. І тут, на прыёме, зноў праявілася хітрасць і дыпламатычнасць нашай зямлячкі. На пытанне Анны Іаанаўны, навошта яна прыехала ў Пецярбург, Саламея адказала, што ў далёкім Стамбуле чула пра жанчыну, якая кіруе Расіяй, і захацела пабачыць яе. Імператрыца здзівілася: "І ты надумала выбрацца ў такую далёкую дарогу за свой кошт, каб толькі ўбачыць мяне?" Станоўчы адказ настолькі ўзрадаваў імператрыцу, што тая адразу прыняла лекарку ў штат прыдворнай абслугі. Да Саламеі адразу пачалі звяртацца прыдворныя дамы. Можа, зайздрасць, а можа "антынавуковыя метады", якімі карысталася новая лекарка, выклікалі незадавальненне яе калег. Пачаліся інтрыгі. Аднак Саламея дзякуючы сваім здольнасцям і жывому розуму падабалася імператрыцы. Да ўсяго ж тую вельмі цікавілі расказы нашай зямлячкі пра яе жыццё ў Турцыі, пра звычаі і норавы, якія бытавалі там. Карыстаючыся такімі адносінамі, лекарка папрасіла падарыць ёй двух палонных туркаў. Імператрыца расшчодрылася і падарыла чатырох. А на развітанне наказала выдаць тысячу рублёў, набор срэбраных кубкаў, адрэзы тканіны і сурвэткі з гербамі.

Па ўказу імператрыцы Саламеі аддалі чатырох туркаў — двух янычараў і двух афіцэраў-сіпахаў. Да мяжы Рэчы Паспалітай дабраліся спадарожнікі амаль без прыгод. Праўда, у ад-



Тытульны аркуш запісак Саламеі Русецкай. (Стамбул, 1760 г.)

ной карчме прыйшлося адбівацца ад нападу разбойнікаў. Але ўсе закончылася добра. А вось на беларускай зямлі... Тут Саламея пабедавала. Рыбанька, які памятаў, як яго лекарка ўцякла ад яго, забраў туркаў і адправіў на радзіму. А нашу гераіню паслаў да мужа. Той служыў у гэты час у глухой палескай вёсцы Лахва (размешчанай на тэрыторыі цяперашняга Лунінецкага раёна). Ціхае, размеранае жыццё не спадабалася Саламеі. Ды і Піхльштэйн пачаў расчароўваць яе. Хутка яна засумавала і стала шукаць падставу пакінуць гэтыя мясціны. І яна знайшлася. Саламея заявіла, што едзе да бацькоў мужа, каб спагнаць з іх тыя грошы, якія заплаціла за яго ў якасці выкупу. Ёй дазволілі. І вось наша зямлячка, нягледзячы на тое, што чакае дзіця, едзе ў Аўстрыю. Дарэчы, дачку сваю яна зноў пакінула. Толькі на гэты

Хутка Саламея зноў вырашае кінуць мужа і выехаць за мяжу. Падстава — неабходнасць атрымаць выкуп ад турэцкіх афіцэраў, якіх яна вызваліла калісьці з рускага палону. Усё было амаль як і ў мінулы раз. Зноў падарожжа па выкуп. Зноў за мяжу. Зноў яна чакае дзіця. Дачку, праўда, яна пакінула на айчыме, але двухгадовага сына чамусьці даверыла не яму, а ўдаве брацлаўскага кашталяна. Зноў недахоп грошай. Зноў Саламея займаецца лячэннем у кожным сустрэчным горадзе. У адным з іх — Бухарэсце — яна нараджае сына, якога называе Станіслаў Костка.

І зноў клопаты з атрыманнем грошай. Янычары адразу заплацілі названую ёю суму, а вось сіпахі адмовіліся. Яны спасылаліся на тое, што з няволі іх адпусціў Радзівіл, потым пачалі сцвярджаць, што нібыта самі збеглі з палону, а лекарка,

таўляла маладой жанчыне вялікае задавальненне. Яна нават вяла дзённік, запісваючы ў яго ўсё ўбачанае і пачутае. Але сістэмнасці, як у сапраўднага падарожніка, у яе пераездах не было.

Саламею вельмі цягнула на авантуры. Яна любавалася сабою, апранаючыся ў мужчынскае адзенне і распіхваючы па кішэнях пісталеты. У крытычных сітуацыях яна са сваёй вынаходлівасцю выглядала больш прывабнай, чым у "ціхія" перыяды свайго жыцця. Але



Рэвель (сучасны Талін) на пачатку XVIII стагоддзя.

# МАНАРХАЎ

раз не ў кляштары, а ў жонкі смаленскага кашталяна Шчыта.

Бацькі Фартуната сустрэлі нечаканую госцю вельмі цёпла. Праўда, аддалі ёй толькі трэць сумы, якую яна затраціла на выкуп. З размоў Саламея зразумела, што бацькі яе мужа былі ім вельмі не задаволены. Той з дзяцінства вызначаўся непаслухмянасцю, растраціў шмат грошай, а галоўнае — насуперак волі бацькі паступіў на ваенную службу.

Спадарожніца накіроўваецца ў Вену і пачынае хадайнічаць, каб імператарская казна вярнула ёй грошы. Яна дайшла да імператара Карла VI. Той паабяцаў выканаць просьбу, але падмануў. У роспачы Саламея звярнулася да імператрыцы і атрымала ад яе... 5 залатых дукатаў. У рэшце рэшт прасіцельніца зразумела, што ўсе яе намаганні марныя. Трэба было вяртацца дадому. Але грошы скон-



Выгляд Рыгі, якую Саламея Русецкая называла дзівосным горадам. Гравюра пачатку XVIII стагоддзя.

чыліся. Ды яшчэ і час родаў набліжаўся. Адчай прымусіў яе звярнуцца да пасла Турцыі Джані-бея Алі-эфендзі. Саламея прапанавала яму свае паслугі ў якасці лекаркі членаў пасольства. Той згадзіўся, бо новая лекарка выдатна ведала турэцкую мову і магла абыходзіцца без перакладчыка. Хутка яе майстэрства стала вядома і жыхарам Вены. Да Саламеі пачалі звяртацца і аўстрыйцы.

Тут, у Вене, яна нарадзіла хлопчыка, які атрымаў імя Францішак-Ксаверый. Здавалася, усё добра. Але нашу зямлячку зноў пацягнула ў дарогу. Не спыніла нават тое, што шлях яе пралягаў на ахопленых вайною землях. Якраз перад гэтым Карл VI памёр, і яго сусед — прускі кароль Фрыдрых II — вырашыў скарыстаць гэты момант для павелічэння тэрыторыі свайго каралеўства. Дарэчы, наша зямлячка змагла прабіцца на прыём да ваяўнічага Фрыдрыха. І нават ён не ўстаяў перад яе абаяннем і дазволіў выехаць з захопленай ім Сілезіі.

Дома Саламея са здзіўленнем даведалася, што Фартунат забраў сваю падчарку і выхоўвае яе сам. "Добрыя людзі" паведамілі ёй таксама, што ў яе мужа былі "амуры". У адчаі Саламея вырашае схавацца ў кляштары ў Львове. Фартунату ўдаецца на гэты раз вярнуць яе ў сям'ю. Аднак, нягледзячы на ўсе яго намаганні, сямейнае жыццё так і не наладзілася.

маўляў, толькі дапамагла ім перабрацца з Расіі. Каб не плаціць, сіпахі звярнуліся ў стамбульскі дыван. Але Саламея аказалася хітрэйшай. Яна звязалася з былым паслом Турцыі ў Расіі. Ях'я-пашы ведаў яе яшчэ па Пецярбургу. Саноўнік атрымаў ад султана фірман, у якім гаварылася аб вырашэнні справы на карысць Саламеі.

І вось суд у Русе. Сіпахі падаюць суддзі рашэнне дывана, паводле якога яны павінны вярнуць лекарцы толькі выдаткі за праезд ад Нарвы да Беларусі. Усе, як кажуць, задаволены. Але тут Саламея паказвае фірман. Агульная разгубленасць. Ніхто не чакаў такога павароту справы. Адзін сіпах згаджаецца тут жа аддаць грошы. А вось другі пачынае пагражаць Саламеі. Заяўляе, што хутчэй расправіцца з ёю з дапамогай слуг, чым аддасць грошы. Нечакана і для яго, і для іншых удзельнікаў дваццацідвухгадовая танклявая жанчына выхоплівае невядома адкуль пару пісталетаў і заяўляе: "І ў мяне хопіць пораху на тваіх слуг. Аддай мне тое, што належыць, а пасля няхай будзе, што Бог дасць". Пад дуламі гэтых пісталетаў сіпах вымушаны быў аддаць грошы. Адкуль яму, бедалазе, было ведаць, з кім ён звязаўся? Ды і хто мог падумаць, што гэтая жанчына з дзяцінства любіць стральбу?

Пасля гэтых падзей Саламея яшчэ два гады праводзіць у Турцыі. Затым перабралася ў Рэч Паспалітую. Сюды сабрала ўсю сям'ю ў Камянцы-Падольскім. Здавалася, што ў рэшце рэшт зажыве ціхім сямейным жыццём. Але на яе амаль адначасова абрынуліся дзве няшчасці. Яе кінуў Фартунат Піхльштэйн. Да таго ж, камендант мясцовага замка Бякерскі арыштаваў яе, а маёмасць апячатаў. Зрабіў ён гэта для таго, каб не аддаваць пазычаныя ў лекаркі грошы. Аднак Саламеі ўдалося збегчы. Праз пэўны час яна змагла сустрэцца з вялікім каронным (польскім) гетманам Юзэфам Патоцкім. Аповед 25-гадовай жанчыны аб яе бедах, аб той беззаконнасці, якую праявіў Бякерскі, расчуліў Патоцкага. Ён дабіўся вяртання маёмасці.

Авантурыстка, лекарка, падарожніца, Саламея ўсё ж заставалася жанчынай, не застрахаванай ад чараў кахання. Яе страснасць накладвала адбітак на ўсе яе справы. Можа, таму, мяркуем мы зараз, праз 200 гадоў пасля таго, як адбываліся ўсе гэтыя падзеі, не ўдалося давесці гэтай таленавітай жанчыне да канца ніводнай са сваіх задум? Яна змагла стаць вельмі добрай і нават моднай у вышэйшых колах лекаркай, але залішняя страснасць і нецярплівасць яе чыста жаночага характару не дазволілі ёй прысвяціць жыццё медыцыне ў поўнай меры. Неўрымслівая натура Саламеі прымушала яе часта мяняць месцы жыхарства. Вандроўніцтва дас-

ніякай мэты ў пагоні за прыгодамі перад сабою Саламея не ставіла.

Магчыма, такое дзіўнае спалучэнне моцы са слабасцю, яркага розуму і таленту з бездапаможнасцю і робіць асабліва прывабным для нас яе вобраз.

Усе гэтыя думкі прыходзяць у галаву, калі знаёмішся з усімі падзеямі, якія былі звязаны з першым у жыцці нашай зямлячкі каханнем. Калі бачыш, як вялікае вельмі моцнае і... сумнае пачуццё прыносіць ёй боль і гора. А прыйшло гэта ўсё пасля знаёмства з прыгажуном афіцэрам. Заўважым, што гэты васемнаццацігадовы воўк быў ужо закаранелым мотам і сэрцаедам. Ён выкарыстоўваў гэтыя частыя ад'езды лекаркі то да аднаго хворага, то да другога для чарговых гулянак. Мала таго, што каханак прамотваў амаль усе грошы Саламеі, дык яшчэ аднойчы закрыў старэйшага сына яе ў сырым склепе. Зрабіў ён гэта для таго, каб хлопчык не ўбачыў і не расказаў маці аб яго п'янках і аб "пасіях". Хлопчык застудзіўся і памёр ад запалення лёгкіх.

Саламея вырашыла пакінуць абрыдлую ёй пасля ўсіх гэтых падзей Польшчу і пераехаць у Расію. Яна спадзявалася стаць лекаркай пры двары рускай імператрыцы Лізаветы Пятроўны, якая змяніла на прастоле Анну Іаанаўну. Саламея была ўпэўнена, што ўлады дазволяць ёй выехаць, таму ў чарговы раз змясціла дачку ў кляштар. Але падарожную ёй не выдалі. Да таго ж Расія ўявляла саракадзённы каранцін для ўсіх, хто перасякаў яе мяжу. Нашу ж гераіню гэта не задавальняла. Яна тайна едзе ў Кіеў. Там трапляе на прыём да генерал-губернатара. Зноў прымяніла яна сваё абаянне, і сэрца чарговага аб'екта яе псіхічнай атакі не вытрымала. Губернатар дараваў Саламеі яе ўчынак і дазволіў жыць у горадзе. Саламея звярнулася да імператрыцы з просьбай дазволіць прыехаць у Пецярбург і ўладкавацца лекаркаю пры двары. У чаканні мінуў амаль год. І вось— станоўчы адказ. Пачаліся зборы. І якраз у гэты час у Кіеве з'явіўся былы каханак з сябрам. Ён сустрэўся з лекаркай, нагаварыў ёй кучу прыгожых слоў, і яна... "растала". Дзіўнае жаночае сэрца! Але каханак надоўга гасцяваў у сваёй "адзінай". Ён абакраў яе і на яе ж санях збег у Рэч Паспалітую. Саламея кінулася са скаргай да генерал-губернатара. Той даў ёй дваццаць кавалерыстаў, каб злавіць злодзея. Але каханак раней іх паспеў да граніцы. Кавалерыстам засталося толькі скрыгатаць зубамі ад злосці, мацюкацца ды прыгаворваць: "Ах,.. збег лях, хахол, злодзей..."

екарка паехала па сваю маёмасць у Камянец-Падольскі. Там яна збіралася падаць у суд. Ды і "каханаму-любаму" хацела паглядзець у вочы. Але ёй паведамілі, што той схаваўся ў кляштары. Праз некалькі дзён пасля гэтага наша зямлячка зайшла ў касцёл на споведзь і нечакана для сябе сустрэла там каханка. Ён са слязамі на вачах прасіў Саламею не губіць яго, не ўзбуджаць судовай справы. Пры гэтым зноў прыгадваў аб сваім каханні, даваў абяцанні вяр-

нуць усё, што ўкраў. Жанчына, як ні дзіўна, зноў паверыла яму. І, зразумела, зноў падманулася. Ёй вярнулі далёка не ўсё з таго, што сцягнулі.

Усё гэта настолькі выматала бедную Саламею, што яна і думаць не магла аб тым, каб кудысьці ехаць альбо чагосьці дабівацца. Злодзей са сваім сябрам так і не былі пакараны. Ды і ад вандровак у Пецярбург давялося адмовіцца. Саламея пасялілася ў Дубне. Яна забрала з кляштара дачку і хутка выдала яе замуж. Сына, які ў гэты час вучыўся ў школе, перавезла з Львова ў Камянецк-Падольскі. Такім чынам, ён быў бліжэй да яе. Мінула некалькі гадоў. Але характар вечнай вандроўніцы зноў "загаварыў". Саламея перабіраецца ў іншае месца. Яна пасялілася ў турэцкіх уладаннях у Малдавіі. Пра гэта даволі хутка даведваецца вялікі янычар-ага (галоўнакамандуючы янычарскім войскам). У яго была хворая пляменніца. Яна страціла зрок у маладыя гады. Ён запрасіў Саламею ў Стамбул. Для гарантавання ж бяспекі накіраваў да яе восем янычараў.

Так лекарка зноў апынулася ў горадзе, дзе прайшло яе юнацтва. Яна вылечыла пляменніцу янычар-агі. Так жа паспяхова прайшло лячэнне і іншых хворых, сярод якіх былі турэцкія саноўнікі, сёстры султана Айшэ і Асма, яго ж жонкі і наложніцы. Праз пэўны час Саламея стала лекаркай султанскага гарэма.

даецца, што ў рэшце рэшт жыццё нашай зямлячкі наладзілася. Усеагульная павага, пастаяннае месца працы, добрыя грошы, спакой. Але ў 1760 годзе ў Стамбул прыязджае польскае пасольства. У яго склад уваходзіў сябар былога каханка С.Завадскі і... 18-гадовы сын Саламеі Станіслаў. Яна вельмі ўзрадавалася, хацела, каб ён застаўся з ёю. Але той ці то па свайму жаданню, ці то па парадзе Завадскага, які настройваў юнака супраць маці, адмовіўся і паехаў дадому. Гэта вельмі засмуціла нашу гераіню. Каб забыць гэта здарэнне, Саламея зноў адправілася ў падарожжа. На гэты раз яна збіралася пабываць у "Святой зямлі". У яе планы ўваходзіла наведаць не толькі Палесціну, але і Егіпет.

Ажыццявіла свой намер ці не, невядома. Таксама невядомы і далейшы лёс нашай гераіні. Ды і наогул аб бурным, поўным прыгод і самых нечаканых здарэнняў жыцці Саламеі Русецкай стала вядома толькі дзякуючы яе дзённіку. Рукапіс гэты знаходзіцца ў Кракаве, у Нацыянальным музеі. Мы ж да нядаўняга часу маглі пазнаёміцца з асобай гэтай таленавітай, смелай і адчайнай жанчыны толькі дзякуючы творчасці нястомнага краязнаўцы, доктара медыцынскіх навук Валянціна Грыцкевіча ды паэтэсы Раісы Баравіковай. Зараз жа сітуацыя змянілася. У 1993 годзе ў адным з беларускіх выдавецтваў намячаецца выпуск дзённіка Саламеі асобнай кнігай.

Мікола БАГАДЗЯЖ.

# ПРАЦЯГ БУДЗЕ

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

(Пачатак у №№ 34-36, 38-40.)

Гаспадар прыняў яго ласкава настолькі, наколькі ўвогуле дазваляла ягоная пасада і чын. Сур'ёзна і чынна, але без імкнення падкрэсліць дыстанцыю паміж імі.

— Няхай наша размова будзе напоўафіцыйнай, напоўпрыватнай,— пачаў ён.— Аднак, нягледзячы на ейны вынік, усё, аб чым мы будзем гаварыць, папрашу захаваць у таямніцы. Ва ўсялякім выпадку, на пэўны час. Гэта загад — ягоны голас імгненна пасур'ёзнеў, а на твары з'явілася суровасць.

— Так ёсць,— службова адказаў Гураль, адчуўшы сябе трохі абражаным. Не першы год працаваў у бяспецы і патрэба захавання таямніцы была яму відавочнай і не патрабуючай падкрэслівання.

— Мы шмат ведаем аб вашым мінулым, маю на ўвазе ваша трагічнае дзяцінства і бесчалавечна забітага бацьку,— адразу дадаў Траяноўскі.— Мы высока ацэньваем вашу службу, таму хацелі б прапанаваць вам цалкам іншую працу, значна больш цікавую ад папярэдняй. Арганізуем спецыяльную групу, якая будзе займацца Касцёлам і пры выпадку — апазіцыяй. Навошта? Трэба хутчэй скончыць з гэтым прывідам, з гэтым крышталёва чыстым вобразам кліру. Урэшце, мы жывём не ў сярэднявеччы, калі людзі падалі на калені і шанавалі бажкоў на зямлі. Народу трэба ўсвядоміць, што гэта — такія самыя смяротныя, як усе мы, а часам і ў сто разоў горшыя. Зрэшты, што я вам тлумачу? Успомніце смерць свайго бацькі і хіба лепей зразумееце істоту справы.

Траяноўскі трапна закрануў найчулліўшае месца ў псіхіцы свайго падуладнага. Хацеў, каб Гураль без вагання ўжо сёння, ужо цяпер сказаў, так ці не. Урэшце толькі такіх — адважных, хуткіх у рашэннях і здольных да рызыкі ён падбіраў сабе ў наваствораную групу. У дакументах, пазначаных грыфам "спец. прызначэння" яна мела крыптонім "Д". Д — як дэзінфармацыя і дэзінтэграцыя духавенства і апазіцыі.

— Грамадзянін палкоўнік,— загаварыў пасля хвіліннага маўчання Гураль.— Вы ведаеце маё асабістае стаўленне да Касцёла і рэлігіі. Ці не будзе гэта перашкаджаць мне ў выкананні даручаных мне заданняў?

— Абсалютна не, хутчэй наадварот,— з твару палкоўніка нарэшце знікла аскетычная суровасць. Зразумеў, што паручнік на ягоным баку.— Уласна з гэтай прычыны маеце поўнае маральнае права на такую службу. Дык што, паручнік, прымаеце прапанову?

Ён вагаўся нядоўга.

— Так!— адказаў рашучым, упэўненым голасам.

— Цудоўна, менавіта такога адказу я чакаў ад вас. А цяпер прапаную вам выпіць кавы або гарбаты, а можа чаго мацнейшага?— Траяноўскі па-змоўніцку падміргнуў.

— Кавы, калі можна,— Гураль не дазволіў сабе перакрочыць мяжу службовасці. Палкоўніку гэта выразна спадабалася.

— Я рады, што магу разлічваць на супрацоўніцтва з такім інтэлігентным чалавекам. Спадзяюся, вы ніколі не пашкадуеце аб прынятым сёння рашэнні. Нам патрэбны такія людзі, як вы. Пакуль вы працягнеце службу ў сталічнай Камендатуры, але не больш як праз некалькі тыдняў прыйдзе загад аб пераводзе вас у нашае Міністэрства.

Яны пілі моцную, добра завараную каву, вялі пустую размову, але Гураль думкамі быў далёка ад міністэрскага кабінету. Мозг ягоны працаваў выключна напружана... Што ж гэта за таемнічую групу збіраюць на Ракавецкай? Іхні аддзел з моманту ўтварэння вёў барацьбу з клірам і касцёлам, для іх, людзей Бяспекі, гэта было штодзённасцю. Але чаму цяпер набірае моц гэтая барацьба? З таго, што ён ведаў з часоў ліста Епіскапату Польшчы да нямецкіх біскупаў 1966 года, у якім тыя даравалі грахі вайны і адначасова самі прасілі аб дараванні, нічога асабліва не напружвала стасункаў на лініі Дзяржава-Касцёл. Па сутнасці гэта быў ганебны і агідны крок, які сведчыў аб выключнай дурноце кліру. Аднак, калі аддзел плануе ўзмацненне антыкасцёльнай дзейнасці і ў дадатак усё гэта акружана таямнічасцю, дык на тое мусяць існаваць незвычайныя прычыны. Але якія? Калі ён будзе ўцягнуты ў акцыі кіраўніцтва Унутраных спраў, гэта будзе азначаць шанц Вялікай,ззяючай кар'еры. Бадай, гэта вялікі шанц. Магчыма, іншага такога ўжо не будзе! Калі ён рашыўся на працу ў гэтым аддзеле, дык трэба гнуць дрэўца, пакуль гнецца, ісці наперад! Так! Трэба брацца за гэтых халерных ксяндзоў, каб зразумелі, хто ў Польшчы кіруе!

Гураль не ведаў, чаму цяпер, за некалькі дзён да Калядаў, ён сядзеў у кабінеце начальніка аддзела Міністэрства ўнутраных спраў і сягаў памяццю ў мінулае. Дзесяць гадоў вернай службы ў Чацвёртым Дэпартаменце былі азначаны поспехамі і пахваламі кіраўнікоў. Дзякуючы сапраўднаму захапленню справай і дасягнутым вынікам ён бліскавічна ішоў угару. Цяпер належыў да шэрагу наймаладзейшых кіраўнікоў у міністэрстве.

— Таварыш начальнік, маёр Сканецкі,— вырваў яго з роздуму голас сакратаркі праз інтэрком.

— Хай увойдзе. І папрашу вас дзве кавы,— кінуў ён у нябачны мікрафон.

Селі за круглы столік у куце кабінету.

— Слухай, Олек. Ёсць патрэба, каб мы ўсімі сродкамі сцішалі палітычны акцэнт святочных казанняў у касцёлах. У першы дзень па святах дырэктар хоча мець адмысловы рапарт на гэтую тэму. Таксама падрыхтуй мне новы аналіз подслухаў у тваіх духоўных семінарыях. Таксама на панядзелак.

— О, курва! Зноў нам не да святаў. Аман,— набожна дадаў Сканецкі, і абодва засмяяліся.

## РАЗДЗЕЛ 3

*Аўторак, 4 снежня 1983 г.*

*Варшава, будынак ЦК ПАРП.*

Паседжанне Палітбюро цягнулася, як звычайна, амаль да поўначы. Сакратар Краеўскі спачатку меў намер знайсці прычыну, каб выйсці раней, але аказалася, што апошнім пунктам нарады пастаўлена абмеркаванне блізкага візіту Папы ў Польшчу.

— Кіраўніцтва Касцёла ў Польшчы было пастаўлена Папам у адназначную сітуацыю, — вызначыў кандыдат у Палітбюро, міністр унутраных спраў.— Ян Павел II рашуча дамагаецца, каб Касцёл выпрацаваў з уладамі пазітыўнае стаўленне да візіту і найкарыснейшыя палітычныя ўмовы для яго. Епіскапат распачаў падрыхтоўку і перамовы з уладамі ў справе візіту. Касцёлам ужо створаны рабочыя групы, якія рыхтуюць праграму побыту Папы ў чэрвені 1983 года.




Краеўскі правёў зрокам па знуджаных тварах сяброў Палітбюро, што сядзелі з абодвух бакоў доўгага стала. Не мусіў слухаць выступ міністра. Ужо некалькі дзён таму атрымаў з міністэрства "Палітычна-арганізацыйныя падставы візіту Папы" і таму ведаў, што Кішчак кажа не тое. З усмешкай падсунуў сакратару прапаганды, які сядзеў побач, адпаведны фрагмент тэксту. "Зялёны" думае, што мы не ўмеем чытаць, ці як?

— Рашэнні ўладаў у справе візіту будуць мець вынікі,— працягваў міністр.

*... Са значэннем унутраным і міжнародным. Кірующымі, падобна, маюць быць наступныя пытанні,— Краеўскі сунуў пальцам па адпаведным радку тэксту.*

*1. Унутраныя аспекты:*

*— уплыў візіту Яна Паўла II на стаўленне грамадства да ўладаў;*

*— візіт як дзейнік, што ўплывае на ўзнаўленне спробаў актывізацыі "Салідарнасці";*

*— уплыў візіту на свядомасць людзей падполля ў пытанні патрэбы далейшага працягу канспірацыі;*

*— магчыма карысць грамадска-палітычнаму становішчу дзяржавы ў выніку змянення ў пажаданым накірунку прынцыпаў і абшару дзейнасці Касцёла;*

*— пэўнае ажыўленне каталіцызму ў Польшчы не павінна ўплываць на ідэйна-палітычны характар дзяржавы.*

*2. Вонкавыя аспекты:*

*— візіт паставіць Захад перад неабходнасцю ўвядзення пэўных змен у стасункі з ПНР;*

*— ход і змест візіту могуць мець уплыў на захаванне рэлігійных груп у сацыялістычных краінах;*

*— візіт можа мець шматзначнае значэнне для далейшай усходняй палітыкі Ватыкану;*

*— візіт можа выклікаць значнае павышэнне актыўнасці дзейнасці дыверсійных цэнтраў;*

*— візіт можа станоўча паўплываць на змену стаўлення эміграцыі да зменаў, што адбываюцца ў краіне.*

— Аб чым размова?— Краеўскі, заўважыўшы нечаканае ажыўленне сярод сяброў Бюро, ачнуўся з роздуму і нахіліўся да суседа.

— Ёсць інфармацыя з колаў Ватыкану, што Папа будзе настойваць, каб сустрэцца з Валенсам, — пачуў ён і адразу ж папрасіў аб выступе.

— Трэба ім лагодна адказаць: спачуваем і гэтак далей, але не можам выказаць на гэта згоды, — рэзка сказаў ён. — Эх, калі б з гэтай прычыны перамовы былі сарваныя і візіт адкладзены... Меў бы на шмат меней клопатаў. А сярод іх і той, найважнейшы.

— Сустрэча гэтая без патрэбы нагадала б людзям імя Валенсы, зрэшты, што тут шмат казаць, ведаем усе...

Большасць удзельнікаў паседжання са згодайківала галовамі. Краеўскі з чаканнем глядзеў на Першага Сакратара.

— Але ў выпадку адмовы справа можа атрымаць палітычную афарбоўку, а гэтага мы таксама мусім пазбягаць, — вагаўся Генерал.

Тэма сустрэчы Валенсы з Папам зрабілася галоўнай на паседжанні Бюро. Дыскутавалі, а прасцей кажучы, грызліся пад прыкрыццём гладкіх фармулёвак яшчэ доўга, да позняй ночы. Разышліся, пагадзіўшыся толькі ў адзіным пункце: калі Папа будзе настойваць на сустрэчы з Валенсам, дык візіт можа не адбыцца. Тым не менш трэба пачаць афіцыйную падрыхтоўку.

Тайным распараджэннем № 099/82 міністра ўнутраных спраў з 31 снежня 1982 г. "Аб пытанні забеспячэння візіту Яна Паўла II у Польшчы" была склікана спецыяльная Аперацыйная Група пад кіраўніцтвам генерала Арнольда Карнашэўскага, шэфа службы аперацыйнага забеспячэння. Намеснікамі кіраўніка групы былі прызначаныя намеснік шэфа Службы Бяспекі, а таксама намеснік Галоўнага каменданта грамадзянскай міліцыі. У склад групы ўвайшлі намеснікі дырэктараў Дэпартаментаў І, ІІ, ІІІ, IV, V, дарэктары бюро аховы ўраду, упраўлення сувязі, намеснік шэфа службы матэрыяльнага забеспячэння, намеснік дырэктара кабінета міністра, кіраўнік аддзела следчага бюро МУС.

*Да галоўных задачаў Групы належаць наступныя:*

*1. Арганізацыя аперацыйна-распазнаўчай дзейнасці ў праблемах, звязаных з візітам Папы, асабліва распазнанне намераў выкарыстання ягонага побыту з мэтамі, супярэчнымі інтарэсам ПНР.*

*2. Арганізаванне забеспячэння візіту і звязаных з тым арганізацыйна-парадкавых акцый.*

*3. Арганізацыя і выкананне неабходных акцый перасцярогі і супрацьдзеяння варожым намерам, звязаным з прыездам Папы і ягоным побытам у Польшчы.*

*4. Выпрацоўка агульных і зацверджанне адмысловых канцэпцый, тактыкі і планаў дзеяння.*

Акцыям, што праводзіла Група ў сувязі з прыездам Папы, быў нададзены шыфр "Ззянне".

У той самы дзень ваяводскім камендантам міліцыі былі высланыя шыфраграмы з патрабаваннямі дадатковай інфармацыі аб палітычных і арганізацыйных аспектах візіту, сярод іншага аб:

*— настроях і каментарах ва ўсіх цікавячых нас асяроддзях аб ходзе і выніках візіту;*

*— падрабязнасцях падрыхтоўкі і намерах выкарыстання візіту дзеля асвятлення варожых акцый і палітычных выступленняў перад візітам і пад час яго. Гэта датычыць планаў і намераў асобаў, групаў і згуртаванняў антысацыялістычнай накіраванасці, дзеячоў былой "Салідарнасці", а таксама апазіцыйных груповак творчай інтэлігенцыі, журналістаў;*

*— кантактах апазіцыйных асяродкаў у краіне з цэнтрамі палітычных дыверсій і замежнымі прадстаўніцтвамі былой "Салідарнасці" з мэтай выкарыстання візіту і асобы Папы да варожага, антыдзяржаўнага і антыкамуністычнага ўздзеяння на грамадства;*

*— кантактах апазіцыйных элементаў у краіне з тэрарыстычнымі групамі за мяжой у аспекце бяспекі візіту;*

*— падрыхтоўцы кліру да візіту, мерапрыемствах як афіцыйных так і тайных, магчымым выкарыстанні ўрачыстасцей і імпрэз дзеля палітычных мэтаў (напрыклад, палітычна і грамадска шкоднай накіраванасці імшы, казанняў, сустрэч з калісьці інтэрніраванымі і г.д.).*

Ад імя ўладаў аб візіце Папы афіцыйна выказаўся міністр замежных спраў Стэфан Альшэўскі, які паведаміў, што візіт можа паспрыяць развіццю адносінаў паміж Касцёлам і дзяржавай, а таксама паміж Польшчай і Ватыканам.

Рэзідэнт КДБ, чытаючы гэты фрагмент рапарту, толькі шэптам лаяўся.

*Субота, 8 студзеня*

*Варшава.*

Арганізацыя сустрэчы з абраным чалавекам на нейтральнай глебе заняла ў Краеўскага амаль два тыдні. Урэшце выпадкова даведаўся, што стары ягоны знаёмы, дацэнт Казімір Ормяньскі, які выкладае логіку ў Варшаўскім універсітэце, ёсць стары брыджовы партнёр падпалкоўніка Гураля і гэта падштурхнула яго да канкрэтнага чыну. У чацвер, на дзень Новага года ў Ормяньскіх ніхто не падходзіў да тэлефона. Рэфлектыўна Краеўскі набраў нумар тайнай інфарматэкі МУС, праз якую можна было пільна высветліць месца знаходжання кожнага, хоць трохзначнага, чалавека ў ПНР.

— Адшукайце мне... — і ў гэтую хвіліну ён зразумеў, што не павінен пакідаць ніякіх слядоў сваёй дзейнасці. Ты, стары дурань — падумаў ён,— лепш адразу тэлефануй Кішчаку і раскажы аб усім!

Цярпліва шукаў Ормяньскага і ўрэшце знайшоў яго у нядзелю вечарам, 2 студзеня.

— З новым годам!— гучна, па складах выгукнуў ён, пачуўшы ў слухаўцы бас Казіміра.

— А, гэта ты, Богусь,— узрадаваўся Ормяньскі.— Не бачыў цябе сто год...

— Ты ж ведаеш, як я кручуся. Не маю вольнай хвіліны. Бракуе часу нават на тое, каб сустрэцца са старымі сябрамі.

— З адкладу няма ладу. Можа, прыйдзеце з жонкай сёння?

— Няма яе, сядзіць з Вандай і ўнукамі ў Крыніцы — з радасцю абвясціў Краеўскі.— Да наступнай нядзелі — саламяны ўдавец.

— Дык прыходзь адзін, згуляем у брыдж.— прагучала нарэшце чаканая прапанова.

— А ведаеш, згуляў бы з задавальненнем. Маеш партнёра?

— Запрашу свайго сталага. Можа нават яго ведаеш, твой былы падуладны з міністэрства. Падпалкоўнік Гураль.

— Калі гэта той, што працуе ў "чацвёрцы", дык я яго памятаю,— узрадаваўся Краеўскі,— такі высокі маладзён.

— Усе мы маладыя,— загрымеў Ормяньскі. Я — малады духам, Богусь. А той, Гураль, малады гадамі, але не дасведчанием. Гэта найлепшы партнёр з усіх, што калісьці меў. Мае жалезную логіку і памяць як у слана, убачыш.

Спадзяюся, падумаў Краеўскі.

— Хто чацвёрты?— спытаў ён.

— Не ведаю, думаў, кагосьці маеш. Хіба што Зося, яна была б рада, але ж ведаеш, як яна гуляе.

— Не хвалюйся, як на мяне, дык Зося гуляе аж надта добра.

Імкнуўся абмежаваць колькасць старонніх асобаў. Вось такі сяброўскі брыдж, выпадковы партнёр, якога прапанаваў яму сябар...

Сустрэліся ў Ормяньскіх увечары наступнага дня. Усё было ўжо падрыхтавана, чакаў стол, накрыты зялёным абрусам, дзве калоды карт і таца з канапкамі ("тарцінкамі", як любіла казаць Зося Ормяньска), пастаўленая на малым століку. Краеўскі на парозе ўручыў гаспадару бутэльку каньяку.

— О, "особенный сорт",— падняў бровы Ормяньскі.— Нават у валютнай краме не купіш. Ну, але ў вас... — перапыніўся, узгадаўшы, што сакратар не любіць згадак пра сваё адмысловае становішча.— Прадстаўлю табе падпалкоўніка Юзэфа Гураля, але ж вы, пэўна, ведаеце адзін аднаго?

— Шмат разоў бываў на нарадах, якія вёў таварыш генерал, але вельмі рады пазнаёміцца асабіста, — падпалкоўнік меў моцны поціск далоні. Краеўскі гэта любіў. Гэта не рэферэнт Хлодзік, у якога рукі пацелі нават на марозе.

— Чуў пра вас, як пра ўзыходзячую зорку Дэпартаменту,— зычліва адказаў Краеўскі.-Вы далёка сягнеце.

Гураль пачырванеў ад задавальнення. Запрашэнне на гэты брыдж прыняў з радасцю, калі даведаўся, што там будзе былы ягоны віцэ-міністр, цяперашні сакратар ЦК, кіруючы з боку партыі міністэрствам унутраных спраў. Такое прыватнае знаёмства магло значыць шмат, хаця, як чуў з плётак у аддзеле, Краеўскі не карыстаўся збытным даверам цяперашняга кіраўніцтва. У любым выпадку восемдзесят трэці год пачынаецца добра, хоць і мінулы закончыўся няблага. Гэтага павышэння да падпалкоўніка мог бы чакаць яшчэ некалькі гадоў.

Баяўся перавагі "зялёных" наверсе. Прыход Кішчака і ягонай каманды разумеў, як і большасць старых кадраў Бяспекі, як уварванне на сваю тэрыторыю. Уварванне, якое можа запаволіць яму выйсце на самы верх. А да гэтага імкнуўся з велізарнымі намаганнямі і жалезнай рашучасцю ад моманту пачатку службы. Жывое мысленне і ўсебаковая адукацыя дазвалялі яму заўсёды трымацца плыні. Увядзенне вайсковага становішча (не тое, каб не згаджаўся з тым, наадварот) і раптоўны наплыў "зялёных" на кіраўнічыя пасты ў міністэрстве ў значнай ступені паблыталі ягоныя планы. А знаёмства з Краеўскім было шанцам, які не мог змарнаваць.

(Працяг будзе).

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

*Ліст у рэдакцыю*

# «НЕ МАГУ ГЛЯДЗЕЦЬ НА МУЖЧЫН...»

Мяне заўсёды здзіўляла, чаму ўсе казкі заканчваюцца на вяселлі, чаму б не расказаць аб тым, як жылі Іван Царэвіч і Васіліса Прыгожая, Прынц і Беласнежка. Відаць, казачнікі былі дастаткова разумнымі, каб не распавядаць нам пра сямейнае жыццё.

...Гэта здарылася на невялікім вакзале ў раённым цэнтры. Маю ўвагу прыцягнула прыгожая жанчына. Нягледзячы на сціплую вопратку, яе хударлявая постаць і прыгожыя валасы прыцягвалі погляды мужчын. Вось толькі жанчыну, відаць, нічога не цікавіла. Каб пазнаёміцца, я прапанавала яблык яе маленькаму сыну. Мы разгаварыліся, і вось што расказала мне Наташа.

Яна нарадзілася ў вёсцы, непадалёку ад Ліды. Была адзінай дзяўчынкай у вялікай сям'і, ды яшчэ і малодшай. Калі вучылася ў школе, пачала займацца музыкай і пасля дзесяцігодкі, вядома ж, вырашыла паступаць у Лідскае музычнае вучылішча.

"У горадзе я адразу разгубілася. Суседкі па пакоі кпілі з маіх "вясковых" сукенак. І, безумоўна, мелі рацыю — у бацькоў заўсёды не хапала грошай на "імпарт". Магчыма, па гэтай прычыне ў мяне ніколі не было асаблівага жадання наведваць рэстараны ці дыскатэкі".

Мінуў год, пачаўся другі. Усё вучылішча жыло чаканнем навагодняга балю — хадзілі чуткі, што на яго запрасілі курсантаў з ваеннага вучылішча.

"Ты што, так і будзеш сядзець адна? — пыталіся сяброўкі. — Пойдзем!" Наташа згадзілася... Яе апранулі ў чужую сукенку. У танцавальнай зале яна схавалася ў нейкі цёмны куток, сядзела і чакала, калі ўсё гэта скончыцца. І тут (чым не казка?) у каляровых промнях пражэктара з'явіўся Ён... Па тагачасным Наташыным уяўленні гэта быў сапраўдны прынц. Сын вайскоўцаў, прыгожы і самаўпэўнены, галантны, ён мог бы закружыць галаву і не такой, як яна. Забыўшыся пра заняткі, Наташа бегала да яго на спатканні. Сяброўкі з радасцю пазычалі ёй адзенне і касметыку. На ўсялякі выпадак Наташа схлусіла, што бацька яе — дырэктар саўгаса, а маці — загадчыца клуба.

Настаў май, а з ім і размеркаванне. Баль скончыўся, трэба было прызнавацца — Сяргей мог незнарок завітаць у госці. Але Наташа і думаць пра гэта не магла без горычы і страху. І, як сапраўдная Золушка, вырашыла проста збегчы.

"Мама не магла зразумець, чаму я такая сумная, чаму не іду ўладкоўвацца на працу... Так прайшло лета. Неяк у канцы жніўня я сядзела ў садзе і чытала. Чую, суседка гаворыць: "Вось іх хата". А потым — голас маці: "Наташа, да цябе". Гэта быў Сяргей... Калі Наташа не прыйшла на апошняе спатканне, ён проста паехаў у інтэрнат, і суседкі па пакоі расказалі праўду.

А потым было вяселле. Сціплая нявестка "без прэтэнзій" спадабалася бацькам Сяргея. Маладыя паехалі на Далёкі Усход, куды размеркавалі мужа.

Спачатку, як водзіцца, усё было добра. Жыццё здавалася Наташы казачным сном. Яна ўвесь час быццам баялася прачнуцца. І ўсё ж прыйшлося. Кажуць, каханне канчаецца там, дзе пачынаецца раздражненне. Адкуль яно толькі бралася ў Сяргея? "Чаму ты так безгустоўна апранаешся? — пытаўся ён. Твае сукенкі распудзілі ўсіх маіх сяброў". Незразумела чаму, але яму раптам перастала падабацца ўсё, што датычыла Наташы.

"Калі я чакала сына, дык яшчэ хавала надзею, што з нараджэннем дзіцяці нешта зменіцца, што Сяргей пачне дапамагаць у хатніх справах, будзе больш уважлівым і пяшчотным". Насуперак спадзяванням увесь цяжар сямейных клопатаў лёг на яе...

"Мы прыехалі ў Беларусь, кватэры не атрымалі, знялі пакой у адной бабулі. Сяргей дома амаль не з'яўляўся, грошай не даваў, але патрабаваў, каб яго кармілі. Свякруха, калі прыехала да нас, сказала, што не пазнае сына. Але ва ўсім палічыла вінаватай мяне: маўляў, мала ўдзяляю ўвагі свайму знешнему выгляду."

Аднаго разу Наташыны нервы "здалі", і мужу, які вярнуўся дадому пад раніцу, яна ўчыніла скандал. Тады ў першы раз Сяргей яе ўдарыў. Потым павярнуўся і пайшоў з хаты.

"Праз некалькі дзён бабуля, у якой мы жылі, падышла да мяне: "Табе не трэба чакаць мужа. Жыць вы ўсё роўна не будзеце. У твайго Сярожы даўно ёсць каханка". Яна назвала мне імя, і я ўсё зразумела. Куды мне было да яе..."

...Ужо некалькі год Наташа з сынам жыве ў маці. Пра Сяргея даўно нічога не чула. "Мы разышліся вельмі ціха. Аб тым, каб выйсці замуж другі раз, нават і не думаю. Не магу глядзець на мужчын. Да вяселля яны ўсе прынцы..."

Толькі аднаго не можа Наташа зразумець: "Ён жа дараваў тады маю хлусню, знайшоў мяне. Значыць, кахаў? Куды ж усё дзелася?"

**Наталля ЧАРАПКО.**



Фота Аляксея МАЦЮША

*Ліст з рэдакцыі*

# ЯК ЯГО ЎТРЫМАЦЬ

Зайздрошчу такім жанчынам. Здаецца, няма сілы, якая здолела б парушыць іх упэўненасць у сабе. Жыццёвыя буры і навальніцы абыходзяць іх бокам, не пакідаючы нават пылінкі на заўсёды бездакорным манікюры. Яны радасныя і поўныя аптымізму, а асабістыя няшчасці пераносяць з пагардлівай усмешкай на твары...

Вы паверылі? Не, шчыра, паверылі, што такія ёсць на самай справе? Якім у гэтым жыцці ўсё даецца лёгка, без асаблівых цяжкасцей? Не верце. А лепш уявіце сабе зусім іншую рэч, адваротны, скажам так, бок медаля – ашаламляльны макіяж нанесены выключна з мэтай замаскіраваць сляды ўчарашніх перажыванняў, а можа нават і слёз: лёгкую прыпухласць пад вачамі, пачырванеўшы кончык носа, непрывабныя плямы на шчоках, зморшчынкі на павеках...

Справа ў тым, што ўсе мы, чароўныя прадстаўніцы лепшай паловы чалавецтва, у агульным і цэлым вельмі падобныя адна да адной. Лёгкаранімыя, непрадказальныя, пяшчотныя, клапатлівыя, улюблівыя... Калі трэба – разумныя, калі не трэба – дурніцы. Але... Адных разумных жыццё loміць або скручвае ў кола, і плывуць яны са сваёй нудой і тугой па цячэнні... А другія... Другія паводзяць сябе зусім інакш. На наступную раніцу пасля якой-небудзь самай неверагоднай трагедыі ў асабістым жыцці яны ўзбройваюцца нажніцамі, выцягваюць з гардэроба доўгую сукенку і пачынаюць перакройваць яе на "міні". Тым самым спрабуючы даказаць усяму свету і сабе: яшчэ не ўсё страчана.

Зайздрошчу такім жанчынам. З іх ліку – мая лепшая, мая любімая сяброўка. Уявіце сабе чалавека, якому ўсё жыццё шанцавала. Па ўсіх пунктах. Добрыя бацькі, удалае паступленне ў прэстыжную ВНУ, і амаль адначасова – бліскучае "замужжа", выдатнае размеркаванне і асобная кватэра на дваіх, потым – найцікавейшая праца, нядрэнная зарплата, дружны калектыў, безліч сяброў. У адносінах з мужам – поўная ідылія. Гэткая сучасная пастараль – пастух і пастушка, толькі што без авечак... Мы яшчэ зайздросцілі ўсе – няўжо можна так закахацца? А ў яе, відаць, ад лёгкага жыцця і характар быў лёгкі. Памятаеце "бунінскае" апавяданне – "Лёгкае дыханне" называецца? Нешта падобнае было і тут – радасць, гарэзлівасць нейкая ў адносінах да жыцця... Кажуць, крылы вырастаюць, калі цябе нехта кахае... Мне здаецца, у гэтым выпадку ўсё было наадварот: яе кахалі за тое, што з крыламі нарадзілася... "Вольга, – жартавалі мы не вельмі ўдала, зайшоўшы да яе ў госці, – а што ты зробіш, калі Ігар табе здрадзіць?" І ведаеце, што чулі ў адказ? "Гэтага не можа быць, таму што гэтага не можа быць ніколі".

Ад сумы і ад турмы не заракайся. Ад нявернасці ў шлюбе – таксама... Лёс нечакана развёў нас на некалькі год і звёў зусім нядаўна. У адрозненне ад многіх знаёмых мне маладых жанчын, у якіх памеры бёдраў і таліі павялічыліся прама прапарцыянальна пражытым гадам, яна зусім не змянілася. Тая ж цудоўная постаць (нават роды не сапсавалі!). Тыя ж доўгія, раскіданыя па плячах валасы... Тая ж гарэзлівая ўсмешка, тая ж лёгкая паходка, тыя ж – а можа, яшчэ і большыя – самаўпэўненасць і самалюбаванне. (Хто сказаў, што гэта дрэнна? Для жанчыны дрэнна толькі тое, што яе прыніжае.)

Мы кінуліся абдымацца прама сярод вуліцы. Потым, калі суцішыліся першыя эмоцыі, падлічылі "капітал" і завярнулі ў першую падыходзячую для "інтымнай" размовы ўстанову.

"Можаш пра сябе не распавядаць, і так бачу: усё выдатна, – сказала я ёй і дадала прыкладна наступнае: – Муж усё яшчэ носіць на руках, ці купіў дзеля гэтага які-небудзь "Опель?"

Яна неяк сумна ўсміхнулася і спытала: "Ты што, нічога не ведаеш?"

Вось тады і грымнуў для мяне асабіста гром сярод яснага неба. Відаць, з большай ахвотай паверыла б у НЛА, чым у Ігараву здраду. Але перада мной сядзела Оля, і не паверыць было немагчыма... Аказваецца, Ігар збег праз год сямейнага жыцця да прадаўшчыцы тэатральных білетаў. Уцёкі прыйшліся якраз на трэці месяц пасля нараджэння дачкі. "Ты падала заяву на развод? Вы разышліся?" "Не. Ён вярнуўся. Прасіў прабачэння. Сказаў, што лепшай за мяне няма і што ніхто яму больш непатрэбны. Прыйшлося дараваць."

Гаворачы гэта, яна заставалася спакойнай, нават занадта. Толькі папрасіла ў хлопца за суседнім столікам цыгарэту і закурыла. З той жа ўсмешкай... Я здагадвалася, што адбываецца ў яе душы. Калі жанчына запальвае цыгарэту, значыць, або хоча некаму спадабацца, або вельмі хвалюецца... Яна расказала мне сваю "гісторыю", якую я прыводжу тут без змяненняў.

– Калі-небудзь напішу мемуары і назаву іх, напрыклад, "Як яго ўтрымаць". Гучыць? З шэрагам рэкамендацый для жанчын. Не для ўсіх, а для тых ружавашчокіх дурніц, якія блытаюць шлюб белетрыстыкай: Наташа Растова кахала Андрэя Балконскага, таму што... І да т.п. Ты калі-небудзь бачыла, як я плачу? Не можаш сабе ўявіць? І я не магла. А ўсе астатнія і цяпер не могуць. Мама – тая і ўвогуле нічога не ведае, ні пра што не здагадваецца. У госці да мяне прыехала: а дзе Ігарок? Ігарок, адказваю, у тэрміновай камандзіроўцы. А ў самой клубок гарачы да горла падкочваецца... Прабач, мамачка, кажу, нешта ў вока трапіла. Сама – хутчэй у ванну, краны адкруціла да канца – усё, можна плакаць, ніхто не пачуе. Але нядоўга, бо здагадаюцца. Потым – мокры ручнік да твару, – слой крэму, слой пудры, "цені", памада – быццам нічога не было... Вечарам звоніць муж, цікавіцца, як справы. (Мы ж не сварыліся, разышліся з мірам.) Адказваю: выдатна. Ветлівым такім тонам, нават з ноткай гуллівасці: маўляў, не на табе адным свет клінам сышоўся. Пытаецца, ці можна ў нядзелю прыйсці, паглядзець на дачку. Для прыліку вытрымліваю паўзу. "Не ведаю. Мяне запрасілі ў госці. Калі толькі паспееш да дзвюх гадзін"... А ў самой каленкі трасуцца і мурашкі па спіне бегаюць. Да нядзелі два дні застаюцца. Выцягваю з шафы свой дамашні халат, адразаю падол – атрымліваецца нешта падобнае да піжамы і выглядае ў спалучэнні з маімі нагамі цудоўна... Нясуся ў краму, купляю новыя пакаёвыя тапачкі... У нядзелю з раніцы – масаж, макіяж. Галава гудзіць, бо на ноч накручвала бігудзі... На нагах – новыя тапачкі, на пліце – гарачае снеданне. Сама стаю пад дзвярыма і чакаю званка. Заходзіць муж – у мяне выраз твару, як у Джаконды. З аднаго боку – абыякавасць і непрыступнасць, з другога – ветлівасць і пяшчота. "Праходзь. Даша цябе ўжо даўно чакае". А ўнутры ўсё сціскаецца, хочацца выць і біцца галавой аб сцяну ад адной думкі, што ён з чужога ложка ўстаў...

Два месяцы так цягнулася. Не паверыш, я за ўсё жыццё столькі да манікюркі не хадзіла, колькі ў тую восень. Дашка ў сем гадзін прачыналася, я ў шэсць ужо ўключала ў разетку фен. Па вуліцы ішла, як па подыуму. Мужыкі сустрэчныя шыі выкручвалі. Вось табе і "кінутая". Каб захацела – яшчэ б дзесяць разоў замуж выйшла б. Але Ігар вярнуўся. Сказаў, што не можа без мяне жыць, і ўсё такое... Спытаў: ты зусім не перажывала? Зусім, адказваю. А ў самой ад бясконцых слёз малако прапала...

Доўга мы прагаварылі тады, аж да цемнаты. І ў кафэ на яе аглядаліся, падыходзілі да століка... Яна жартавала, ветліва-насмешліва адмаўлялася ад надакучлівых прапаноў... Непрыкметна "пераключылася" на іншую тэму, завялася, як некалі...

"Ну і што? – спытаеце вы. – А якая з гэтага ўсяго мараль?" Ніякай маралі. Проста хацела расказаць вам пра сваю сяброўку, якая лічыць сябе шчаслівай дзякуючы адзінаму чалавеку ў свеце – сабе самой.

**Наталля СТРАЛКОВА.**

# ТРУП БЕЗ ГАЛАВЫ



Змрочную карціну нашага сённяшняга жыцця дапаўняюць настойлівыя паведамленні аб тым, што злачынствы не толькі растуць, але і становяцца больш жорсткімі. Паводле звестак Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь, сёння кожнае сёмае злачынства мае цяжкія вынікі. Расце і страх. Па выніках сацыялагічнага апытання з кожных ста жыхароў Беларусі 38 баяцца стаць інвалідамі або загінуць ад рук злачынцы. Ды і як не турбавацца за сваё жыццё, калі колькасць нераскрытых злачынстваў у мінулым годзе дасягнула 31,5 тысячы!

Але наш час урадлівы на абсурды. Адзін з іх, можа, самы небяспечны — злачынцаў баяцца, іх зверствы маляўніча апісваюцца, пра магчымасць дыктатуры крымінальных элементаў гавораць ахвотна і ўсюды, але ўсё робіцца, каб ім, злачынцам, жылося як мага лепш і больш прыемна, пакаранні былі мякчэйшымі. На шквал злачыннасці наша грамадства пакуль адказвае моцным прылівам гуманізацыі сістэмы пакаранняў, змякчэннем прысудаў, безвыніковымі для абароны грамадзян рэарганізацыямі міліцыі. Смела скажу, няма такога прасцячка ні ў органах унутраных спраў, ні ва ўрадзе, ні ў Вярхоўным Савеце, які б наіўна меркаваў, што бандытам сёння праблематычна дастаць зброю. Аднак гэта не значыць, што ў мірных грамадзян з'явілася больш магчымасцей прымяняць яе для самаабароны. Мала таго, ён, злачынца, нападаць і забіваць нават неяк па статусу свайму абавязаны, а вось той жа прахожы або грамадзянін, у кватэру якога залез злодзей, трапіць у турму згодна з артыкулам 103 КК БССР, які дзейнічае дагэтуль, калі, крый Божа, ударыць таго, хто на яго напаў, не па правілах спартыўных спаборніцтваў.

Мы размаўляем пра жорсткасць нораваў — і спадзяёмся перамагчы злачыннасць мяккасцю да таго, хто спатыкнуўся. Але каб цывілізаваныя метады падзейнічалі на адкіды грамадства, трэба каб асноўная частка грамадства была цывілізаванай. Але ці так гэта? У гэтым і справа, што цынічныя злачынствы ў апошні час ажыццяўляюцца часцей за ўсё радавымі грамадзянамі, а не мафіёзі. Не "джэкі-патрашыцелі", а маладыя рабочыя, нярэдка перадавікі і г.д., ажыццяўляюць у вольную часіну жахлівыя забойствы.

Вось нядаўні прыклад. Грузчык Хойніцкага камбіната кааператыўнай прамысловасці Мікалай Міхайлавіч Крупіцкі — па водгуках таварышаў па рабоце і знаёмых, чалавек не толькі працавіты, але і аматар пачытаць, а паводле сведчанняў сваёй былой жонкі, і аматар музыкі.

6 ліпеня мінулага года ў цэнтры Хойнікаў ён сустрэў амаль незнаёмага яму П.А.Папчанку. Ведаў толькі, што апошні сябруе з яго суседам па лесвічнай клетцы. І ўсё. Але прывіталіся, разгаварыліся і вырашылі, што трэба выпіць за працяг знаёмства. Набылі бутэльку гарэлкі і накіраваліся на кватэру Крупіцкага запіваць ёю самагонку. Пасля аднаго з тостаў, тыпу "Ну, паехалі", Папчанка знянацку пабіў келіх з запасу Крупіцкага. Гаспадар яго пажурыў. Папчанка ў адказ абадраў яму шчаку пазногцямі. А.Крупіцкі ў сваю чаргу зрабіў так: спачатку ўдарыў госця абедзвюма рукамі па баках і каленам пад пах, затым склаў рукі — і па галаве. Потым узлез на крэсла і двойчы скочыў на грудную клетку Папчанкі. Але той яшчэ варушыўся. Тады гаспадар шчыльна абматаў шыю госця вялікім ручніком і з усяе сілы цягнуў канец гэтай удаўкі на сябе, пакуль госць перастаў дыхаць. Для ўпэўненасці напусціў у ванну вады і апусціў туды галаву трупа. Пузыркоў на паверхні не было. Задаволены вынікамі нялёгкай працы, Крупіцкі лёг спаць.

Раніцай з новымі сіламі кухонным нажом адрэзаў у Папчанкі галаву, ніжнія канечнасці ў каленных, а верхнія — у локцевых суставах. Калі сцямнела, вынес адрэзаныя часткі ў сумцы на ўзлессе і закапаў. Вяртаўся назад — сустрэў нарад міліцыі. Па першаму патрабаванню паказаў, што ў вялізнай сумцы нічога няма і разам з міліцыяй панаракаў на цяжкія ў сэнсе здабычы харчавання часы. Потым вынес і расчлянёны труп. Хацеў утапіць яго ў вадаёме, але палянаваўся далёка несці. Кінуў на рапсавым калгасным полі.

Ці падобна расказаная праўдзівая гісторыя з жыцця працоўнага чалавека на начныя кашмары? У калектыве, дзе працаваў Крупіцкі, яна асаблівага ажыятажу не выклікала. Ну, пагарачыўся хлопец, пазабавіўся з ножычкам. Мы наогул прывыкаем да жахаў жыцця, хутка зверскія забойствы на нашых вачах будуць рабіць не большае ўражанне, чым шум транспарту за кном кватэры.

Дрэнна, што і міліцыі на жахі, пануючыя ў нашым быце, напляваць. Адбылося поўнае яе збліжэнне з народам. Прычым, самым розным народам. Вось узорчык агульнасці інтарэсаў вартавых закона з нялепшымі прадстаўнікамі маладога пакалення. Аляксандр Сцяпанавіч Хмель у 18 гадоў быў асуджаны на тры гады пазбаўлення волі за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Выйшаў — ажаніўся. У студзені 1990 года зноў збіў жанчыну. Хаваўся ад адказнасці, але потым папаўся на крадзяжы матацыкла і быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання Барысаўскага РАУС. Напярэдадні перадачы сваёй справы ў суд параніў сябе цвіком, пашкодзіўшы мяккія тканкі брушной поласці. Так трапіў у 1-е хірургічнае аддзяленне Барысаўскай гарадской бальніцы. Далей пачынаецца фантасмагорыя.

23 ліпеня пасля лёгкай аперацыі яго вартаваў у палаце толькі адзін паставы сяржант міліцыі А.Хаменка. Гэта — ужо парушэнне інструкцыі. Але яшчэ "семечки". "Ягодки" будуць далей. У размове з паднаглядным Хмелем сяржант Хаменка распавёў, што самае моцнае яго жаданне на гэты момант — апахмяліцца пасля ўчарашняга вялікага бадуна. Хмель у поўнай меры паспачуваў нялёгкім міліцэйскім будням сяржанта, пасля якіх без спіртнога свет нямілы, сеў з ім у машыну "Медпамогі" і павёз да сябе дамоў. Там разам з падследным сяржант распіў бутэльку гарэлкі. Узяўшы з сабой бутэльку "сухача", вартавы закона і паднаглядны вярнуліся ў палату. Там, як сапраўдныя сябры, выпіваюць і гуляюць у карты. Потым выходзяць у бальнічны сквер адпачыць у засені прыемнай прахалоды дрэў. У знак поўнай сяброўскай прыхільнасці сяржант здымае з Хмеля наручнікі. Жонка паднагляднага, якая прыйшла наведаць мужа, убачыла ідылічную карцінку: вартавы мірна гутарыць з падследным, выказваючы поўную прыхільнасць і ўзаемаразуменне. Час ад часу сяржант страляе па пралятаючых птушках, а будучы зняволены ацэньвае ягоную меткасць. Жонку Хмель пасылае па гарэлку, каб "асвяціць" узнікшую толькі што дружбу.

Але гарэлкі пакуль што няма, а душа прагне чагосьці рамантычнага ўжо зараз. І тады Хмель бярэ са слабых ад двухдзённага злоўжывання алкаголем рук сяржанта рэвальвер і двойчы страляе яму ў галаву. Начапіўшы затым міліцэйскую фуражку забітага, выходзіць у горад і там спыняе ВАЗ-21061. За рулём — рабочы ваеннага завода Б.І.Умоўскі з жонкай, дачкой і ўнучкай. Злачынца прыстаўляе да скроні Умоўскага пісталет і патрабуе вывезці яго за горад. За вёскай Вялікае Стахава гаспадар спыняе машыну і катэгарычна адмаўляецца везці бандыта далей. Хмель патрабуе ключы ад аўтамабіля, забірае іх. Цяпер, па правілах логікі, ён павінен паспрабаваць уцячы на здабраным ВАЗе, пакінуўшы няшчасную сям'ю на шашы. Калі ж заб'е каго-небудзь з гэтых няшчасных, расстрэлу не пазбегнуць. Ды і што яны яму змогуць зрабіць, пакуль не знойдуць які-небудзь тэлефон? Але Хмель мяркуе інакш. Ён страляе два разы ва Умоўскага, каб забіць таго. Потым націскае на "газ". Сэнсу ў гэтым забойстве — ніякага, трое ж жывых усё роўна патэлефануюць у міліцыю. Хутка Хмель, вадзіцель нявопытны, з'ехаў у кювет. Пайшоў праз лес у вёску Брылі, дзе яго і затрымала міліцыя.

Асабіста мяне пасля знаёмства з такімі вось здарэннямі неяк не натхняюць палымяныя прамовы пра неабходнасць гуманізацыі крымінальнага заканадаўства і ўмоў утрымання асуджаных...

**Барыс САФРОНЕНКА.**

## Інфа-крым

### Суд адбудзецца ў Вільні, расстрэл – у Менску

У незалежнай Летуве абвешчаны чатыры сьмяротныя прысуды. Першы, у верасьні 1990 г., жыхару Менска А.Мельнікаву, які ў Друскеніках забіў малатком двух чалавек. Другі, у студзені 1991 г., А.Шукісу, які ў вёсцы нажом зарэзаў бабулю й падпаліў ейную хату. У верасьні 1991 да сьмяротнае кары быў прысуджаны Р.Бражынскас, які рабаваў і забіваў таксістаў-прыватнікаў. Апошні сьмяротны прысуд абвешчаны сёлета 24 студзеня жыхару Вільні А.Наваткісу, які сталовым нажом зарэзаў 12-гадовую дзяўчынку. Злачынца нанёс дачцэ сваіх знаёмых 24 нажавыя раны.

Ніводзін з гэтых прысудаў яшчэ ня зьдзейсьнены. Справа Мельнікава разглядалася зноў, сьмяротная кара была заменена на пажыццёвае зьняволеньне. Цяпер злачынца сядзіць у віленскай турме на Лукішках і рэгулярна піша касацыйныя скаргі генэральнаму пракурору рэспублікі. Бражынскас таксама асуджаны пажыцьцёва. Шукіс, пачуўшы ў судзе словы "прысудзіць да вышэйшае меры", спытаўся ў судзьдзі: "Дык што, расстраляюць?"– і паваліўся без прытомнасці. Праз тры месяцы ён павесіўся ў камэры сьмяротнікаў. Калі ў начальніка Лукіскай турмы І.Анджэлы спыталіся, дзе Шукіс узяў вяроўку, той адказаў, што для такіх мэтаў можна скарыстаць і кашулю, і штаны, і нават бялізну. Дарэчы, шмат у якіх замежных краінах сьмяротнікаў апранаюць у адмысловую робу, якую дзеля "справы" ніяк не скарыстаеш.

Пасьля сьмерці Шукіса ці жартам, ці сур'ёзна нехта сказаў: "Яму падсунулі вяроўку, бо ня ведалі, дзе й як выканаць прысуд".

Ня ведаюць і цяпер, бо адпаведны юрыдычны дакумант яшчэ не гатовы. Гэты праект фармулюе асноўныя прынцыпы, а тэхнічны бок справы будзе вызначаць турэмная адміністрацыя. Яе кіраўнікі ўсё ніяк не вырашаць, хто возьме на сябе ролю ката.

Дагэтуль сьмяротнікаў вывозілі ў Менск і больш пра іх ніхто нічога ня чуў. А між тым з добра інфармаваных крыніцаў удалося даведацца, што ў сталіцы Беларусі злачынцаў прывозілі на турэмныя могілкі, дзе была падрыхтаваная яміна. Стралялі на краі гэтай яміны з блізкае адлегласьці ў галаву. Зрэшты, часта проста саштурхоўвалі ў яміну і стралялі. Потым адразу закопвалі. У выкананьні прысуду бралі ўдзел два-тры работнікі турмы і вартаўнік могілак.

Кажуць, за ўсю гісторыю чалавецтва выпрабавала каля двухсот спосабаў зьдзяйсненьня сьмяротнага прысуду. Пачынаючы з чацьвертаваньня, сьпіхваньня ў алейны кіпень і сканчаючы электрычным крэслам ці інтравеннай ін'екцыяй. У даваеннай Летуве сьмяротнікаў у адмысловай камэры атручвалі газамі. У Савецкай Летуве да 1968 году асуджаных расстрэльвалі спэцыяльныя аддзелы "сверхсрочников".

Пакуль не прыняты дакумант, адзіны на сёньня ў Летуве сьмяротнік Наваткіс працягвае жыць. Ніхто ня ведае, як зьдзейсніць прысуд.

Пятае прыказаньне кажа: "Не забі!" У трыццаці васьмі краінах свету сьмяротнае кары няма, яшчэ ў трыццаці яна ёсьць, але ўжо вельмі даўно не ўжываецца. Некалькі гадоў таму ў камэрах сьмяротнікаў Лукінскай турмы стала сядзела чалавек дзесяцьпятнаццаць, што чакалі выкананьня прысуду. Цяпер там сядзіць толькі адзін. Зрэшты, ад гэтага ня меншае цяжкіх злачынстваў...

**("Наша ніва").**

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## ЛІК НА ТАБЛО

У мінулую суботу адбыўся чарговы тур футбольнага чэмпіянату Беларусі, у якім героі тура мінулага зноў вызначыліся. Але хто ў станоўчы бок, а хто й наадварот. Небяспечныя цяпер аўтсайдэры гулялі дома, і зноў даволі ўдала. БелАЗ у Жодзіна адабраў ачко ў аднаго з лідэраў – магілёўскага "Тарпеда" – 2:2. Першае ачко ў апошніх трох матчах атрымаў віцебскі КІМ, які дагэтуль гуляў вельмі ўдала. У гасцях у яшчэ аднаго аўтсайдэра – старадарожскага "Будаўніка" – віцябчане згулялі з лікам 1:1. Трэцяя і апошняя нічыя ў туры таксама з удзелам каманд з ніжняй часткі табліцы: па мячы ў вароты率 сапернікаў забілі ў Лідзе мясцовы "Абутнік" і рэчыцкі "Ведрыч".

Значна дапамаглі палепшыць турнірнае становішча шэрагу каманд перамогі ў гасцях: "Тарпеда" (Мінск) –"Днепр"–0:3, "Беларусь"–Дынама" (Брэст) 1:2, "Лакаматыў"–"Хімік"– 1:3, "Гомсельмаш"–"Трактар"– 0:2. Салігорскі "Шахцёр" дома перамог маладзечанскі "Металург" (1:0) і з 13 ачкамі заняў месца пасярэдзіне турнірнай табліцы. Узначальвае апошнюю мінскае "Дынама" з 22 ачкамі (чэмпіёны былі ў гэтым туры вольныя ад гульняў). За ім ідзе "Днепр" з семнаццаццю і адразу тры каманды, якія набралі па 16 ачкоў, –"Беларусь", брэсцкае "Дынама" і магілёўскае "Тарпеда".

* * *

На мінулым тыдні лепшыя еўрапейскія футбольныя каманды згулялі адказныя сустрэчы першых кругоў кантынентальных кубкаў. На нашай старонцы мы найбольш увагі ўдзялялі саперніцтву венскага "Рапіда" і кіеўскага "Дынама". 30 верасня ў Вене ў паўторнай сустрэчы Аляксандр Мятліцкі зноў не гуляў, таму што Аўгуст Старэк заявіў на матч трох іншых легіянераў: Сяргея Мандрэку, чэха Грыгу і нарвежца Фьёртафта. Пасля таго, як Сяргей адкрыў лік, а Ян-Аге Фьёртафт зрабіў яго 3:0, напэўна, ні ў каго не ўзнікала сумненняў у агульнай перамозе аўстрыйскай каманды. Але кіяўляне, якія дома, нагадаем, перамаглі з лікам 1:0, забілі два мячы ў адказ і выйшлі ў наступны круг – 1/16 Кубка УЕФА.

Там іх чакае сапернік яшчэ больш сур'ёзны – бельгійскі "Андэрлехт".

Расійскія каманды прайшлі першы круг без страт, але ў наступным па волі жэрабя іх чакаюць сустрэчы з, бадай, самымі славутымі футбольнымі клубамі Еўропы. У Кубку чэмпіёнаў ЦСКА сустрэнецца з "Барселонай", у Кубку кубкаў маскоўскі "Спартак" згуляе з "Ліверпулем", у Кубку УЕФА "Тарпеда" (Масква) паспаборнічае з мадрыдскім "Рэалам", а "Дынама" (Масква) – з італьянскім "Тарына".

* * *

Хакеісты мінскага "Дынама" зноў пачалі набіраць ачкі і нарэшце падняліся з апошняга радка турнірнай табліцы. Спачатку яны згулялі ў Чарапаўцы з "Металургам" – 1:3 і 4 :2. А 4 і 5 кастрычніка прымалі ў Мінску кіеўскі "Сокал-Эскулап". Гульні завяршыліся з лікам 3:2 і 2:3.



# «АЎТАМАБІЛІСТ» ПЕРАМАГЛІ! ХТО НАСТУПНЫ?

"Аўтамабіліст" (Бравары) – "Палітэхнік" (Мінск) – 23:19.

Пяці мячоў адрыву пасля першага матча ўсё ж хапіла мінчанкам, каб атрымаць жаданую пуцёўку ў наступны круг розыгрышу Кубка ІГФ. Ледзь-ледзь хапіла, але галоўнае — перамаглі. Бо наўрад ці лёс звядзе з сапернікам больш моцным і складаным, чым каманда з Брвароў.

Перад матчам хваляваліся ўсе — і дзяўчаты, і трэнеры, і "група балельшчыкаў", якую складалі тры журналісты і адказны сакратар Федэрацыі гандбола Беларусі Георгій Мікітавіч Бугрым. Але хваляваліся нябачна, стрымліваючы ўнутранае напружанне і разраджаючы атмасферу добрымі жартамі. Пачалася гульня — і стала не да жартаў.

Ужо на другой хвіліне браварчанкі вялі 2:0. У трох адказных атаках мінчанкі не здолелі трапіць па варотах. Толькі пятая мінута гульні прынесла першы гол "Палітэхніку" пасля моцнага кідка Антаніны Чыбангу. Але потым зноў "Аўтамабіліст" пайшоў наперад дзякуючы добрай гульні сваёй левай крайняй Любові Лаўранюк. Тая забіла чатыры мячы запар і давяла лік спачатку да 5:1, потым да 6:2. Але тут нашы дзяўчата перамаглі стартавыя хваляванні і знайшлі сваю гульню. Трапныя кідкі ўдаліся Мяжынскай, Аверчанка і двойчы Чыбангу, і на васемнаццатай хвіліне лік ужо быў роўны — 6:6. Дарэчы, незадоўга да гэтага галявога спурта мінчанак, Леанід Гуско на якую хвіліну замяніў Тоню і выказаў свае прапановы. Як бачым, гэта падзейнічала. Далей у першым тайме мінчанкі далёка не адпускалі саперніц. Тайм закончыўся з лікам 11:10.

А другі пачаўся са значнай перавагай "Палітэхніка". Нашы дзяўчаты нават выйшлі наперад 12:11 і... зноў страцілі набытае за лічаныя хвіліны. Восьмая мінута — 15:12 на карысць "Аўтамабіліста", адзінаццатая мінута — 17:13. Напэўна, адсюль пачалася самая драматычная частка паядынку. Цяпер, калі адступаць ужо не было куды, калі на аб'ектыўнасць маскоўскіх арбітраў разлічваць не прыходзілася, мінскім гандбалісткам удаліся чатыры запар адрывы з дасканалым завяршэннем нашых крайніх Алены Корзун і Ларысы Мяжынскай. Лік зноў амаль роўны — 18:17! Украінкі не здаліся, удар за ўдарам абрушваўся на вароты "Палітэхніка", якія бліскуча абараняла Людміла Дзяніс. На апошніх хвілінах з апошніх сіл абараняліся мінчанкі. І не далі забіць саперніцам. Скончыўся матч свабодным, які на выхадзе часу назначылі суддзі ў бок нашых варот. Але гэта было ўжо не так страшна. Пасля гульні ўсе віншавалі адзін аднаго з перамогай, а адну з гераінь Антаніну Чыбангу... з васемнаццацігоддзем, якое мелася адбыцца на наступны дзень. У гэты час падумалася, якія дарослыя патрабаванні мы прад'яўляем да гэтай таленавітай, але зусім яшчэ дзяўчынкі.

Ужо ў аўтобусе расчуленыя трэнеры Леанід Гуско і Міхаіл Маеўскі падзякавалі дзяўчынкам за выдатную гульню і выдатны вынік.

— Гэта быў мой самы прыемны дзень за час сумеснай работы з вамі! — сказаў Леанід Мікалаевіч. Віншуем і мы са свайго боку каманду з першым вялікім міжнародным поспехам.

Нашы прайшлі ў 1/8 фінала Кубка ІГФ. Далей, спадзяёмся, будзе лягчэй. А мы будзем вас знаёміць, сябры, з усімі наступнымі крокамі мінскай жаночай гандбольнай каманды.

Дарэчы, калі матэрыял ужо быў падрыхтаваны, сталі вядомы вынікі жараб'ёўкі. У 1/8 розыгрышу Кубка ІГФ мінскі "Палітэхнік" будзе гуляць з польскай камандай "АЗС" (Вроцлаў).

**Старонку падрыхтаваў спартыўны агладальнік Яўген ПУЧКОЎ.**
**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**



